


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

5 КАСТРЫЧНІКА 2001г. № 40/4122 КОШТ 134 РУБ.




### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 750 рублёў, на тры — 2250 рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2000 рублёў, на тры - 6000 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**
**Ведамасны індэкс — 63857.**

***Яшчэ не ўсе лісты апалі...***

*Фота А. КАЛЯДЫ*



# КОЛА ДЗЁН

***Хутка будзе месяц, як у Амерыцы адбыліся тэрарыстычныя акты, якія забралі жыцці ў тысяч людзей. ЗША аб'явіла вайну тэрарыстам усяго свету і кожны дзень падцягвае свае ўзброеныя сілы да Афганістана, дзе хаваецца галоўны тэрарыст Усама бен Ладэн. З дня на дзень па гэтай краіне, у якой ужо больш дваццаці гадоў ідзе вайна, будуць нанесены першыя ракетна-бомбавыя ўдары. Пра гэта гаворыцца ва ўсіх інфармацыйных перадачах расійскіх тэлеканалаў. Людзі глядзяць і паціху прывыкаюць, што будзе вайна. І ўжо мала хто думае, што вайна, пачаўшыся, невядома калі закончыцца і чым. Але жыццё ідзе і пара ўжо нам рыхтавацца (не да вайны!) да зімы, а тым больш, што ўжо былі замаразкі да 5 градусаў. І ўсё ж і амерыканцы, і расійцы, і афганцы, і беларусы жывём на зямлі, якая ў нас адна... Адна...***

## НАЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

1 кастрычніка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ "Аб Г.В.Навіцкім", у якім гаворыцца: "1. Назначыць Навіцкага Генадзя Васільевіча выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. 2. Унесці ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапанову аб дачы згоды на назначэнне Г.В.Навіцкага прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь". Генадзь Навіцкі нарадзіўся ў 1949 годзе ў Магілёве. Беларус. Закончыў Беларускі політэхнічны інстытут у 1971 годзе, у 1988 — Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Па спецыяльнасці — інжынер-будаўнік. У 1994 годзе назначаны міністрам архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, з 1997 года — намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. На пытанне журналістаў, з чаго мае намер пачаць работу, Генадзь Навіцкі адказаў, што ў аснову дзейнасці будзе пакладзена перадвыбарная праграма кіраўніка дзяржавы, у якой дакладна акрэслены прыярытэты і перспектывы развіцця краіны.

## СУПЕРПЛАНЫ ТЫДНЯ

Супермагістраль ЕРАА працягласцю ў 18 тысяч кіламетраў, якая злучыць тры мацерыкі, пройдзе праз Мінск. У беларускі ўчастак супермагістралі ўвойдзе траса М-І (Варшава—Мінск). У Камітэце па аўтадарогах Беларусі пачата распрацоўка адпаведных мер і праграм па ўзгадненні ўмоў эксплуатацыі беларускага ўчастка ЕРАА. На сённяшні дзень тэхнічна прапрацаваны праект участка ЕРАА: граніца Беларусі—Масква—Далёкі Усход. На гэтым маршруце патрабуецца пабудаваць 2750 км і рэканструяваць 5830 км аўтамабільных дарог. Праект ацэньваецца прыкладна ў 10 млрд. долараў і акупіцца праз 7-10 гадоў. Адкрыццё трасы дазволіць павялічыць паток транзітных перавозак праз нашу краіну мінімум на 25-30 працэнтаў. Нядрэнна!

## СВЯТА ТЫДНЯ

Не першы год у нашай краіне на дзяржаўным узроўні святкуюцца дажынкі. На гэты раз фестываль - кірмаш "Дажынкі-2001" прайшоў у Мазыры. Сярод механізатараў, якія ўшаноўваліся за выдатную працу, былі тры жанчыны-камбайнеркі. Гэта Кацярына Буячынская з калгаса "Ленінскі шлях" Карэліцкага раёна Гродзеншчыны, Галіна Зяневіч з калгаса імя Мічурына Чэрвеньскага раёна Міншчыны і Таццяна Дзеўгуць з калгаса імя Калініна Пастаўскага раёна Віцебшчыны. Яны працавалі памочнікамі камбайнера побач са сваімі мужамі. Усе тры жанчыны атрымалі за сваю ўдарную працу па каляровым тэлевізары, а іх мужы — па халадзільніку. Словам, ёсць яшчэ жанчыны ў нашых сялeнях!

## ЧУТКІ ТЫДНЯ

Яшчэ зусім, здаецца, нядаўна ў нашай краіне адбылася дэнамінацыя і ў нас з'явіліся дробныя грошы — 1 і 5 рублёў. Але, нягледзячы на нядаўнасць дэнамінацыі, з'явіліся чуткі, што хутка гэтыя купюры будуць зняты з абарачэння. А справа тут вось у чым — дэфіцыт гэтай "дробязі" перашкаджае нармальным адносінам паміж пакупніком і прадаўцом. Да ўсяго надрукаваць купюру ў 1 рубель каштуе больш за суму яе вартасці. Так што ў хуткім часе, магчыма, нас чакае акругленне цэн. Што ж, акругленне дык акругленне, да ўсяго мы ўжо ведаем, як гэта робіцца. Але...

## РАЗВІТАННЕ ТЫДНЯ

У мінулыя выхадныя апошні раз тэлегледачы БТ змаглі паглядзець "Рэзананс", які не даваў нам сумаваць апошнія шэсць гадоў. Вядучы і аўтар "Рэзананса" развітаўся са сваімі гледачамі, але не з усімі, а толькі з тымі, хто глядзеў усе гэтыя гады яго перадачу...

## КОНКУРС ТЫДНЯ

Ужо трэці раз праводзіўся конкурс на лепшую газетную публікацыю па сацыяльнай тэматыцы. Яго арганізатарам і спонсарам было беларускае прадстаўніцтва кампаніі "Філіп Морыс Менеджмент Сервісез Б.В.". На суд незалежнага журы было прапанавана больш як 50 публікацый. Журналісты газеты "Вечерний Гомель" Андрэй Новікаў і Аляксандр Клімаў атрымалі прэмію за лепшую публікацыю на тэму "Дзеці Беларусі". Рэдактар дрыбінскай раёнкі "Савецкая вёска" Алена Бегуновіч перамагла ў намінацыі "Мір у сям'і". Лаўрэатам у намінацыі "Міласэрнасць" стаў журналіст з "Рэспублікі". Віншуем!

## МЕДАЛІСТЫ ТЫДНЯ

У гэтым годзе па 233 спецыяльнасцях 43-х дзяржаўных ВНУ было пададзена больш чым 83 тысячы заяў. Паспяхова здалі экзамены і сталі студэнтамі 58 тысяч чалавек. Як заўсёды, прыёмныя камісіі выявілі слабыя месцы ў падрыхтоўцы ўчарашніх школьнікаў. Расчаравалі, і гэта ўжо не першы год, уладальнікі залатых і сярэбраных медалёў. Так, з 15,5 тысячы паступаючых медалістаў залічаны ў ВНУ толькі 6491 чалавек. Да ўсяго 11,5 працэнта медалістаў на экзаменах атрымалі нездавальняючыя адзнакі. Усяго ж двоечнікаў сярод абітурыентаў было 14,3 працэнта.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Восень — пара вяселляў. Але закаханыя жэняцца не толькі восенню. Праўда, колькасць зарэгістраваных шлюбаў у нашай краіне за апошнія 10 гадоў скарацілася на 25 працэнтаў. Цяпер у Беларусі налічваецца каля 2,5 млн. жанатых пар. У мінулым годзе ўзята 62.485 шлюбаў і афармлена 43.512 разводаў. У цэлым па краіне колькасць разведзеных жанчын у 1,8 раза большая, чым мужчын, бо разведзеныя мужчыны часцей за жанчын бяруць паўторны шлюб. На сённяшні дзень кожная чацвёртая жанчына знаходзіцца ў разводзе ці з'яўляецца ўдавой, сярод мужчын — кожны дзесяты. Лічбы невясёлыя, але за імі стаіць наша жыццё...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

## Справаздача ў аддзяленні СБП

Адбыўся справаздачна-выбарчы сход Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аб зробленым на працягу апошніх чатырох гадоў гаварыў сакратар аддзялення Васіль Ткачоў. Было адзначана, што сябры творчага саюза часта сустракаюцца з чытачамі ў школах і прафтэхвучылішчах, у бібліятэках вобласці. Адсвяткаваны юбілеі народных пісьменнікаў Івана Мележа, Івана Шамякіна і Андрэя Макаёнка, праведзены вечары памяці Анатоля Грачанікава, Аляксандра Капусціна, Івана Кірэйчыка і Міколы Янчанкі, а таксама творчыя вечары Уладзіміра Ліпскага, Міколы Гроднева, Ізяслава Катлярова, Соф'і Шах, Валянціны Кадзетавай. Адбыліся прэзентацыі новых кніг Анатоля Бароўскага, Таісы Мельчанкі, Ізяслава Катлярова і Соф'і Шах. Праведзены абласны літаратурны конкурс "Памяці Івана Мележа", у якім прынялі ўдзел не толькі прафесійныя пісьменнікі, але многія самадзейныя аўтары. Пераможцам уручаны грашовыя прэміі.

У абласным аддзяленні заснаваны літаратурныя прэміі імя А.Грачанікава (паэзія), імя А.Капусціна (публіцыстыка і проза), імя І.Сяркова (творы для дзяцей і юнацтва), імя М.Доўнар-Запольскага (крытыка і бібліяграфія). У розныя гады лаўрэатамі гэтых прэмій былі Соф'я Шах, Міхась Даніленка, Віктар Ярац, Таіса Мельчанка, Анатоль Бароўскі, Ізяслаў Катляроў.

Актывізавалі дзейнасць літаратурныя аб'яднанні. Найбольш актыўна працуюць сёння рагачоўскае "Натхненне" і гомельская "Пралеска".

Імя паэта Уладзіміра Верамейчыка нададзена школе ў в. Ведрыч Рэчыцкага раёна, дзе ён доўгі час працаваў дырэктарам.

У справаздачнай прамове Васіля Ткачова, а таксама ў выступленнях Анатоля Бароўскага, Ізяслава Катлярова, Юрыя Фатнева, Соф'і Шах, Таісы Мельчанкі, Івана Афанасьева, Ларысы Раманавай падкрэслівалася, што Саюзу пісьменнікаў разам з Дзяржкамдрукам неабходна прыняць пастанову, згодна з якой забараніць усім друкарням выдаваць кнігі паэзіі і прозы без адпаведнай рэкамендацыі творчага саюза, бо, не сакрэт, лаўкачы ад літаратуры засмецілі сваімі "творамі" паліцы бібліятэк. Знайшла падтрымку і прапанова выдзяляць для абласных аддзяленняў штогод пазіцыі ў планах выдавецтва "Мастацкая літаратура", а на месцы ўжо будзе вырашана, чые кнігі выдаваць. Фактычна кнігі гомельскіх пісьменнікаў у Мінску апошняе дзесяцігоддзе не выдаваліся.

Час нарэшце пазбавіцца, падкрэслівалася на сходзе, штучнага рангу "абласнога пісьменніка". На так званай перыферыі жыве больш чым сто пісьменнікаў, гэта амаль чацвёртая частка нашага творчага саюза. Таму паступіла прапанова ўвесці ў абласных арганізацыях пасаду бухгалтара (0,5 стаўкі) і арганізатара творчых сустрэч. Сумесна з адміністрацыяй абласцей гэтыя пытанні, думаецца, вырашыць можна станоўча.

Сакратаром Гомельскага абласнога аддзялення зноў абраны Васіль Ткачоў.

Былі разгледжаны і іншыя пытанні. У творчы саюз рэкамендаваны Генадзь Говар. Празаіку Аляксандру Сопату зроблена заўвага за паводзіны, якія не ўпрыгожваюць званне пісьменніка.

**Васіль БАРХАНАЎ**

## Зацікаўленая размова

Адбылося першае пасяджэнне секцыі крытыкі і літаратуразнаўства ў новым складзе членаў бюро. На пасяджэнні заслухана справаздача старшыні секцыі Міхася Мушынскага, абрана новае кіраўніцтва секцыі: старшынёй секцыі стаў Алесь Карлюкевіч, намеснікам — Ганна Кісліцына.

Намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч, які прыняў удзел у пасяджэнні, адзначыў станоўчыя моманты ў рабоце секцыі крытыкі і літаратуразнаўства і выказаў ад імя сакратарыята Саюза пісьменнікаў падзяку Міхасю Мушынскаму за шматгадовую старанную працу.

Зацікаўлена прайшло абмеркаванне творчасці маладога крытыка і літаратуразнаўцы Ірыны Шауляковай. Без перабольшання можна сказаць, што яно адначасова выклікала важную гаворку па надзённых пытаннях літаратурнага працэсу ў рэспубліцы.

У спрэчках выступілі: Г.Кісліцына, Т.Дасаева, В.Жураўлёў, Ю.Масарэнка, А.Карлюкевіч і іншыя. Былі адзначаны мастацкія вартасці зборніка І.Шауляковай "Сентыментальнае паляванне", выдадзенага ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Члены бюро сышліся на тым, што ў асобе Ірыны Шауляковай беларуская літаратура мае рупнага і ўдумлівага даследчыка. Аднагалосна вырашылі: рэкамендаваць Ірыну Шаулякову для прыёму ў Саюз пісьменнікаў.

Адначасова бюро секцыі пацвердзіла сваю рэкамендацыю для прыёму ў Саюз пісьменнікаў Таццяны Дасаевай.

**Я.ІВАНОЎ**

# Разгорнем разам часаў шаты...

Сёння ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа працуе выстаўка "К вясне б маёй хацеў вярнуцца...", арганізаваная коласаўцамі сумесна з Музеем беларускага Палесся з Пінска. Яна мае на мэце паказаць быт жыхара павятовага горада канца 19 — пачатку 20 ст. На ёй прадстаўлены мемарыяльная мэбля з гасцінага пакоя дома А.Балевіча, а таксама асабістыя рэчы гараджан-пінчукоў, якія сталі сведкамі свайго часу — фісгармонія, патэфон, сталовы і кухонны посуд, рэчы хатняга ўжытку, калекцыя геадэзічных інструментаў, арыгінальныя фотаздымкі пачатку стагоддзя.

Усяго тры гады з мая па верасень 1915 года пражыў Якуб Колас у Пінску, але пінскія ўражанні пакінулі свой след у некалькіх дзесятках твораў пісьменніка.

У горадзе над Пінай Якуб Колас перажыў не толькі сваю "болдзінскую восень", але тут яго напаткала сапраўдная шчырае пачуццё, яго жыццёвы лёс — Марыя Каменская. У 16-гадовым узросце прыехала працаваць на Палессе юная настаўніца з Вільні. Усю цеплыню душы аддавала яна сваім выхаванкам — вучаніцам жаночага пачатковага вучылішча пры чыгуначнай станцыі Пінск. Жыла Марыя на прыватнай кватэры ў фельчара галоўных майстэрняў Палескіх чыгуначных дарог Арсенія Балевіча разам са сваёю каляжанкаю — таксама настаўніцай чыгуначнай школы. Непадалёк кватараваў і Канстанцін Міхайлавіч, які працаваў выкладчыкам у гарадскім прыходскім вучылішчы №3.

Сустрэліся маладыя на педагагічнай нарадзе, дзе Колас чытаў лекцыю настаўнікам-пачаткоўцам. А праз год — 3 чэрвеня 1913 Кастусь



і Марыя пабраліся шлюбам...

У маладой інтэлігентнай сям'і панавалі згода і ўзаемапавага, творчая ўзаемадапамога. Па ўспамінах сястры Коласа Марыі, якая адну зіму жыла ў брата ў Пінску і вучылася ў класе ў Марыі ў чыгуначнай школе, да Коласа з жонкай часта прыходзілі ў госці сябры-настаўнікі і проста знаёмыя, і братава іх прыязна прымала, частавала, бо мела талент гаспадыні. Яшчэ Марыя хораша спявала, магла падтрымаць добрую гутарку, забавіць гасцей.

Восенню 1914 года ў Коласа нарадзіўся першынец — сын Даніла, у будучым заслужаны дзеяч культуры БССР, дырэктар музея свайго бацькі. У гэтым жа годзе Колас прызываецца на вайсковую службу. Аднак яго адпускаюць як настаўніка.

У канцы жніўня 1915 года ў сувязі з пачаткам імперыялістычнай вайны Якуб Колас з жонкай і сынам эвакуіруецца ў Маскоўскую губерню, жыве ў Замаскварэччы. У верасні К.Міцкевіч ужо быў мабілізаваны ў царскую армію і праходзіць службу ў 55-м запасным батальёне ў Маскве.

Гэтай датай заканчваецца рамантычны і ўзнёслы, важны і адначасова складаны і скрутны перыяд жыцця Якуба Коласа і пачынаецца новы, яшчэ больш трывожны:

*А я еду, госці лета,*
*У той крываве вір,*
*Дзе вар'яцтва ўсяго свету*
*Свой спраўляе пір*

Асобна на выставе экспануюцца прылады для рыбалоўства і палявання, выраблены рукамі палешукоў сто гадоў назад. Цікавасць уяўляюць паляўнічыя трафеі, старадаўні паляшуцкі строй і саматужная зброя.

Арыентавана выстаўка на студэнцкую і вучнёўскую моладзь, на ўсіх, хто цікавіцца гістарычнай спадчынай нашай Бацькаўшчыны.

**Ганна ЗАЙЦАВА**

*Фота С.ЛУК'ЯНАВА*

# Дух Скарыны

Да 10-годдзя Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны

***Ён прыходзіць да нас у нястомлены час.***
***АКІ СОНЦАМ малюе карціны:***
***Вось студэнт-бакалаўр...***
***Бурачковы п'е квас.***
***Вось будынак анфас — белы кубачак з гліны.***

***Ён прыходзіць да нас з Маргарытай сваёй...***
***(Нібы Руф — у нябёснай намітцы).***

***Гэты восеньскі Мінск падабаецца ёй.***
***Асабліва... тэатры сталіцы.***
***Ён гаворыць са мной, як пяе акраверш.***
***Загалоўныя літары — кветкі.***
***А ў Скарынаўскі цэнтр Ён прыносіць найперш***
***"Часасловец"... і стужкі-віньеткі.***

***Так пяшчотна мядовыя свечкі гараць...***
***Воск сплывае з фігурак прарочых.***
***І хвіліны, як мушкі, да свечак ляцяць.***

***Дух Скарыны прасветліў нам вочы.***

**Алена ІГНАЦЮК**

ВІНШУЕМ!

# Яе тэатр

## АКТРЫСА АЛЯКСАНДРА КЛІМАВА АДЗНАЧЫЛА ЮБІЛЕЙ

Па маладосці гадоў славутую актрысу Рускага тэатра А. Клімаву я бачыла на сцэне толькі ў монаспектаклі "Мой тэатр". Уражанні засталіся моцныя, непераказальныя. Актрыса ўзрушае натуральнасцю існавання ў сцэнічнай прасторы. Прымадонна проста захапляе залу жывым, трапяткім маналогам аб жыцці Актрысы. Яе ўспамінамі аб мінулым, сыграным, цяперашнім адчуванні сябе, калі трэба сыходзіць са сцэны. Гучаць прызнанне любові да тэатра, маналогі тых гераінь, якіх некалі іграла (Марыі Сцюарт, Клеапатры і многіх іншых). На сцэне, дзе месціцца ўмоўная грымёрная актрысы, не толькі касцюмы. Тут лунаюць тонкія перажыванні (А.Клімава згадвае пра ваенную перапіску з салдатам, закаханым тады ў маладую актрысу), хваляванні, боль ("няма роляў, адны "ралішкі" даюць...") аўтабіяграфічнага характару. Гераіня А. Клімавай углядаецца ў люстэрка, выклікаючы фантомаў мінулых роляў... Так, Акцёр — гэта містычная прафесія. Здаецца, як магчыма, каб нехта ў N-ы раз нараджаўся на сцэне ў новым вобразе, зліваўся з ім у адно, ператвараўся са звычайнага смяротнага ў Відачынца? Ці верагодна гэта, узняцца ад будзённасці, ад зямлі (нездарма тэатральныя падмосткі крыху ўзвышаюцца над глядзельнай залай) да нечага нерэальнага, што творыцца толькі ў імгненне? Гераіня А. Клімавай не адна на сцэне: побач з ёй яе Душа ў вобразе юнай балерыны. І калі, дзяўчынка вядзе актрысу са сцэны, з Яе Тэатра, глядач адчувае моцнае ўзрушэнне — і не хавае слёзы. "Я — сыходжу, с ы х о д ж у," — Актрыса кажа рэпліку так шчыра, што хочацца выбегчы на сцэну, спыніць яе... Але гэта толькі спектакль (дарэчы, ён у рэпертуары тэатра), у якім А. Клімава, якой хочацца пажадаць цяпер здароўя ды добрага настрою, паказвае высокае майстэрства акцёрскай ігры. І не дзіва — гэта ж Яе Тэатр.

**В.Б.**



*На здымку: сцэна са спектакля "Мой тэатр"*

ВЫСТАВЫ

# Прыклады прыемнага баўлення часу

Так называецца адна з работ мастака Валянціна Губарава, прадстаўленая на яго новай выставе ў галерэі "Мастацтва". Насамрэч, гэта назва цалкам адлюстроўвае не толькі сутнасць выставы, але і самой творчасці мастака. Яго алейныя фантазіі выдатна глядзяцца ў любым памяшканні, магчыма, таму што яны патрабуць не прасторы, а пільнага разглядання кожнай гумарыстычнай сцэнкі. Яны ніколі не "губляюцца" ў агульнай экспазіцыі, бо адразу спыняюць увагу яркім калейдаскопам вобразаў. Стыль Губарава за апошнія гады зрабіўся знаёмым і пазнавальным нам, бо дагэтуль мастак выпрабоўваў уздзеянне сваіх эксперыментаў толькі на замежніках. Дарэчы, усе правы на продаж яго карцін за мяжою мае адна з французскіх кампаній, у якую пасля закрыцця выставы накіруюцца новыя творы В.Губарава.

Сам жа мастак лічыць сябе чалавекам непрадказальным. Ён не прэтэндуе на папулярнасць ці прэстыжнасць, ён не працуе на вечнасць і не творыць "высокае" мастацтва. У гэтым, думаецца, і ёсць сакрэт прыцягальнасці яго творчасці. Гратэскавыя вобразы ўспрымаеш без папярэдняй папраўкі на "высокае" мастацтва, дазваляеш сабе быць "проста" гледачом, смяяцца, здзіўляцца, шакіравацца. Прычым сам Валянцін нават знешне няўлоўна чымсьці зблізіўся са сваімі героямі: ён гэтак жа шчыра і без боязі выказвае свае пачуцці. Ён дагэтуль здатны няўпэўнена пытацца ў сяброў, ці падабаецца ім яго творчасць. Магчыма, ён спрабуе сябе і сваіх герояў схаваць ад зласлівасці сённяшняга дня ў натуральнай прастацы, якая не надакучае і будзіць усцешныя развагі.

Можна доўга разважаць, адкуль і які чынам вырасла творчасць Валянціна Губарава. Па адукацыі — мастак-кніжнік (скончыў Маскоўскі паліграфічны інстытут, доўгі час працаваў мастаком у выдавецтвах "Беларусь" і "Мастацкая літаратура") — Валянцін Губараў па сутнасці сваёй працы і творчага бачання не быў звернуты да манументальнасці і маштабнасці. Яму лягчэй было знайсці сваё самавыяўленне ў іранічных ілюстрацыях да кнігі гарадскога побыту, сярод якога жывём мы ўсе. Схема гэтая была даўно заўважана і прынята за аснову Босхам, Брэйгелем, Генералічам.... А Валянцін Губараў прапанаваў нам працяг гэтай гульні ў кантэксце тэмаў нашага стагоддзя.

**Н.Ш.**





**Фота М. ПРУПАСА**

АБСЯГІ

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

### Новы часопіс

Выйшаў з друку пілотны нумар новага беларуска-польскага часопіса "Зямля навагradская". У ім змешчаны артыкулы "З зямлі лясных пагоркаў, з зямлі лугоў зялёных: аб краявідах Навагрудчыны" Томаша Крывіцкага, "Дзе жыла Марыля?" (пра Марылю Верашчаку) Анджэя Сыракомлі-Булгака, "На перакрыжаванні лёсаў. Міхал Клеафас Агінскі і філарэты: згадкі і гіпотэзы" Тацяны Кляшчонак, "З нерэалізаваных планаў: нататкі дырэктара музея Тамары Вяршыцкай" і інш.

Неўзабаве чакаецца выхад першага нумара, своеасаблівым лейтматывам якога будуць успаміны ўраджэнцаў Навагрудчыны, што па волі лёсу апынуліся ў эміграцыі. Гэта — Вольга Храптовіч-Буцянёва, жонка апошняга ўладальніка маёнтка Шчорсы, беларуса па паходжанні з французскім прозвішчам Нуваро; урыўкі з кнігі Джэка Кагана і Довада Когена пра партызан-габрэяў з Навагрудскага краю (кніга з'явілася ў ЗША ў 1998 г.)...

Матэрыялы для часопіса рыхтуе навагрудскае Таварыства філаматаў, галоўны рэдактар — Вольга Каменева.

**Н.К.**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

### Сход мастакоў

Адбыўся справаздачна-выбарны сход абласной арганізацыі Саюза мастакоў. Падсумаваны вынікі зробленага. За тры справаздачныя гады арганізаваны міжнародныя пленэры скульптараў і жывапісцаў у Гомелі, Буда-Кашалёве, Рэчыцы, Светлагорску, 60 групавых і персанальных выстаў. Са станоўчага боку адзначана работа з маладымі мастакамі.

Шмат гаварылася і пра цяжкае фінансавае становішча арганізацыі. Старшынёй абласной мастакоўскай суполкі зноў абраны Анатоль Отчык. У рабоце сходу прыняў удзел старшыня Саюза мастакоў Генадзь Буралкін.

### Госці з Украіны

Абласная філармонія адкрыла 35-ы сезон. На свята прыехалі госці з Украіны — сімфанічны аркестр з Чарнігава. Украінскія музыканты прапанавалі гамяльчанам творы Гайдна, Моцарта, Бетховена, Брамса...

### Свята ў парку

Гомельскі гарвыканкам і аб'яднаная дырэкцыя паркаў культуры правялі свята "Паркавы лістапад". На гэтае мерапрыемства сабраліся тысячы гараджан. Выступалі фальклорныя і вакальна-інструментальныя ансамблі. Была арганізавана выстава моднага адзення. На Сожы адбылася парусная рэгата.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

### Дыпламанты двух фестываляў

Нядаўна ў літоўскіх гарадках Кельме і Іонава прайшлі міжнародныя фестывалі тэатральнага мастацтва "Кельмская сцэна" і "Рэха-2001". Беларусь на гэтых форумах прадстаўляў народны тэатр "Валянцін" Магілёўскага цэнтра культуры і вольнага часу. Спектакль "Камедыя" Уладзіміра Рудава быў названы лепшай пастаноўкай фестываляў. Магілёўскі калектыў на чале з заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Валянцінам Ермаловічам стаў дыпламантам адразу двух названых фестываляў. Дарэчы, прадстаўнікі польскай дэлегацыі збіраюцца запрасіць магілёўскіх артыстаў на тэатральны фестываль, які пройдзе ў траўні 2002 года ў Польшчы.

### У вёскі і ў горада — дні народзінаў

15 верасня вёска Пудоўня Дрыбінскага раёна адзначыла 365-годдзе. У гэты дзень на будынку мясцовай сярэдняй школы была адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар беларускага паэта Сцяпана Гаўрусёва, які некалі тут вучыўся. А ў мясцовым Доме культуры адкрылася філія раённага гісторыка-этнаграфічнага музея, адна з экспазіцый якога прысвечана гісторыі Пудоўні...

А на мінулым тыдні жыхары Крычава адсвяткавалі 865-годдзе заснавання свайго горада і 58-годдзе вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У тутэйшым краязнаўчым музеі і ў бібліятэках раёна былі разгорнуты экспазіцыі аб гісторыі Крычаўшчыны. У кінатэатрах дэманстраваліся кінастужкі аб Вялікай Айчыннай. А ў школах праходзіў конкурс дзіцячага малюнка "Што я ведаю пра вайну".

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

### Вершы і балады

Выйшла новая кніга вершаў Алеся Бабаеда "Цішыня прасторы". Як прызнаецца аўтар, цішыня натхняе паэта, нараджае тэмы і вобразы... Побач з трапяткой лірыкай чытач знойдзе ў кнізе і балады на гістарычныя тэмы "Ігнат Грынявіцкі. 1881 г.", "Грунвальдская балада. 1410 г."

### Сезон адкрываюць "Несцеркам"

У нядзелю Акадэмічны нацыянальны тэатр імя Якуба Коласа адкрые 75-ы тэатральны сезон. Па традыцыі, артысты сыграюць "Несцерку". Гэта, мусіць, адзіная традыцыя, якую захавалі коласаўцы. У астатнім тэатр змяніўся з прыходам новага мастацкага кіраўніка Віталя Баркоўскага. Гэтым летам коласаўцы шмат гастралявалі: у Малдове, Польшчы, Італіі, прынялі ўдзел у эдынбургскім фестывалі.

— Я лічу, — гаворыць Баркоўскі, — што наш спектакль "Шагал... Шагал..." павінен аб'ехаць усе краіны і прарубіць акно ў свет, стварыць імідж тэатру...

**Святлана ГУК**

### Краязнаўца, журналіст, кінааматар

Анатоль Шнэйдар жыве ў Талачыне, з'яўляецца рэжысёрам народнага кінавідэаклуба ЮНЕСКА "Летапіс". Антону Антонавічу ідзе восьмы дзесятак гадоў, з іх больш чым 35 ён узначальвае названы клуб. На рахунку Шнэйдара больш за сто фільмаў. Ён таксама — краязнаўца і журналіст. Адна са стужак Шнэйдара — "Коханаўскія "Весялухі". Коханава — пасёлак у Талачынскім раёне. "Весялуха" — самадзейны калектыў мастацкай самадзейнасці. У свой час стварыла народны ансамбль Кацярына Варанко. У фільме — гісторыя калектыву, цудоўныя песні і чароўная прырода Талачыншчыны.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

*На здымку: рэжысёр народнага кінавідэаклуба "Летапіс" Анатоль Шнэйдар*

# Жанчына пра свет і пра сябе

Таццяна МУШЫНСКАЯ

***Жыццё паскарае свой рух. Магчыма, менавіта гэтае паскарэнне – адна з прычын незвычайнай папулярнасці малых жанраў. Мініяцюр, абразкоў, дзённікавых запісаў. Прычым, папулярнасць, скажам так, двухбаковая. І ў тых, хто піша. І ў тых, хто чытае. Калі цяпер чытаць раманы і эпапеі, разлічаныя на нетаропкае, няспешнае існаванне? Вельмі часта няма калі. А тут – мініяцюра... Пачатак – канец. Ізноў пачатак, ізноў канец.***

***А яшчэ варта згадваць так званую "кліпавую свядомасць". Усюдыснае тэлебачанне, тое, з якога ў многіх сем'ях пачынаецца дзень і якім гэты самы дзень заканчваецца, прывучыла да хуткай змены "карцінак" на экране. Надта доўга сузіраць і разважаць ізноў-такі няма калі. Убачыў – або запомніў, або не запомніў... Далей – наступная "карцінка"...***

***Пачутыя і занатаваныя маналогі або фрагменты маналогаў, якія вы прачытаеце, належаць жанчынам рознага ўзросту, якія маюць розны жыццёвы вопыт, розны характар, розныя прафесіі і сацыяльны статус. Але іхнія думкі і меркаванні дадаюць нейкія штрыхі да партрэта менавіта сучаснай Евы.***

Выкладчыца Акадэміі музыкі. У антракце канцэрта мы размаўляем з ёй пра тое, што масавы ад'езд музыкантаў за мяжу – або ў Заходнюю Еўропу, або ў Расію – набывае формы эпідэміі. Ці масавых уцёкаў. Яна згаджаецца з маімі довадамі і заўважае:

— Як ні сумна прызнаць, але мы двойчы ўскраіна. Для Заходняй Еўропы —ускраіна Еўропы. А для Расіі —ускраіна Расіі...

•

Жонка мастака. Дзеці яе дарослыя, унукі падгадаваліся. Кажа з усмешкай і шкадаваннем:

— Каб я ў маладосці разумнейшая была, дык мой муж даўно быў бы народным мастаком. І выставак больш меў, і альбомы, і майстэрню большую... Каб жа я тады ведала – дзе ўваход, а дзе выхад.

•

Пісьменнік надрукаваў апавяданне пра каханне. Сапраўды незвычайнае. Такая проза! Усе ў рэдакцыі чытаюць, ходзяць па калідорах, дзеляцца ўражаннямі. Захапляюцца, раяць адзін аднаму прачытаць.

Апавяданне – ад першай асобы. Пра жанчыну. Напісана з такім замілаваннем, з такім захапленнем... Невыказным, невымоўным... Нехта рамантычна ўздыхае і, магчыма, думае: няўжо так бывае ў жыцці? Няўжо бываюць такія жанчыны і такія пачуцці?

Рэакцыя жонкі пісьменніка самая нечаканая:

— Знайшоў што друкаваць!

•

Прафесар Беларускай акадэміі музыкі:

— Іншым разам я думаю, што напалеонаўскае нашэсце і вайна 1812 года былі пакараннем рускаму грамадству – за сляпое і бяздумнае захапленне ўсім французскім – мовай, звычаямі, модай...

Трапна!

•

Мама ўспамінае, як некалі, у пасляваенным Мінску, яна бачыла на свае вочы аб'яву на дзвярах крамы, дзе прадавалі газу. Аб'ява была па-руску, па-руску яе і прыводжу: "Гражданам с узким горлышком керосин не отпускается".

Вядома, смешна. Вядома, нечакана. Але ж яшчэ і штрых да карціны гарадскога пасляваеннага побыту, калі керагазы і газніцы былі ў кожнай хаце... Яшчэ я памятаю тыя крамы, дзе на пачатку 60-х гадоў прадавалі газу. У іх заўсёды панаваў своеасаблівы пах, які ні з чым не зблытаеш...

•

Немаладая жанчына, бабуля. Добра памятае даваенны і пасляваенны Мінск – дзе былі якія вуліцы, дзе стаялі якія будынкі. Расказвае пра сям'ю сваіх добрых знаёмых, яўрэяў. Тут жа згадвае з усмешкай яўрэйскае праклянне: "Каб у цябе застаўся адзін зуб і каб ён табе ўвесь час балеў!..! Як каларытна! Ну, не прыдумаеш гэтага ніколі, каб і хацеў...

•

Май. Зяленіна. Цёпла. Таму ўрок фізкультуры – на вуліцы. Спачатку – скачкі ўдаўжыню, потым – увышыню. Адны разбягаюцца, іншыя чакаюць сваёй чаргі. Настаўнік стаіць крыху ўбаку, з раскрытым класным журналам.

Усе вучні ў спартыўнай форме, якая, натуральна, аблягае фігуру. Адна дзяўчына крытычна аглядае другую і кажа:

— Нешта ты плоская. Як дошчачка. Хлопцы такіх не любяць. Яны любяць круглых і мяккіх...

— Адкуль ты ведаеш?

— Ведаю!

— Такіх, як ты, любяць? – хітразлосна пытаецца тая, каго "забракавалі".

— Такіх, як я! – упэўнена смяецца аднакласніца.

Восьмы клас...

•

Сцэна ў ашчаднай касе, або, як цяпер яе называюць, ашчадным банку. Жанчына з дзяўчынкай гадоў васьмі ці дзесяці. Відаць, жанчына або зарплату атрымала праз касу, або зняла колькі грошай са свайго рахунку. Але няшмат. Дастаткова беглага позірку, каб у гэтым пераканацца. Грошы беларускія, пачак невялікі. Ды і вартасць купюр не надта буйная. Дачка ўзрадавана кажа:

— Ой, мамачка, колькі грошай!

І пачынае марыць:

— Можна купіць цукеркі, зефір. А яшчэ і на пячэнне застанецца...

З надзеяй:

— Мама, купім?

Маці вяртае дачку на зямлю:

— Я табе што – Ракфелер?

•

У жанчыны двое дзяцей вучацца ў прэстыжнай і, можна лічыць, элітнай навучальнай установе. Расказвае:

— Сабралі неяк бацькоўскі сход. Дырэктар і кажа: "Таго не хапае, гэтага не хапае... На рамонт школы трэба, яшчэ і на гэта трэба... Дапамажыце!"

І што вы думаеце? – працягвае жанчына. – Бацькі кажуць: "Добра, дапаможам! Можам нават "зялёнымі". Вы скажыце, колькі трэба!"

Добра ім, яны багатыя! Дык што – у іх дзеці ад таго больш здольныя будуць? Вядома, не будуць. А калі ў мяне няма "зялёных", дык што, мае дзеці ўжо не такія здольныя?

•

Настаўніца ўспамінае, як яе дачка была маленькая. Гады тры-чатыры тады ёй было.

— Сяджу я за сталом, працую, рыхтуюся да ўрокаў. Сшыткі правяраю, планы пішу – наступных урокаў. А дачка ў гэтым самым пакоі гуляе.

— Каця, — кажу, — што ты робіш?

— Планы пішу.

А яна тады яшчэ ні пісаць, ні маляваць не ўмела...

— Мама, я так многа планаў напісала...

•

Артыстка:

— На пачатку новага сезона ў нашай трупе з'явіўся малады артыст. Новы. Сімпатычны такі. Я нашым дзяўчатам маладзейшым і кажу:

— Куды вы глядзіце? Такі хлопец... Хто-небудзь забярэ!

А яны мне:

— Ну, і што ў ім такога асаблівага? Яшчэ невядома, што з яго атрымаецца... Пакуль да вядучых партый дабярэцца, колькі часу пройдзе!

— Зразумела! – працягвае артыстка. – Яны адразу генеральшамі хочуць зрабіцца... Так не бывае. Ты вазьмі звычайнага чалавека і зрабі з яго прынца. Адна з нашых канцэртмайстраў увагу на яго звярнула. Уважліва да яго, з клопатам. У рэшце рэшт ён з ёю і пабраўся...

•

Дзве сяброўкі. Размова пра "тое".

— Увогуле мужчына, калі ён, вядома, табе падабаецца і калі ён табе падыходзіць, — гэта наркатычны сродак. Слабы сродак ці моцны. Што – не так?.. Ну, успомні, закахалася – стан лёгкага кайфу. Медыкі тлумачаць: гэта арганізм выпрацоўвае эндарфіны, гармоны шчасця. Вашы адносіны развіваюцца, кайф большы. І хочацца "дозу" павялічыць. Каб яшчэ больш кайфу было. Вось так пачынаецца прывыканне. І залежнасць.

Я думаю, што ўсе любоўныя драмы – у жыцці і ў літаратурных творах — маюць адну аснову. Нехта ад некага залежыць. Ці Ён ад Яе. Ці Яна ад Яго. Залежыць эмацыянальна, псіхалагічна, яшчэ неяк. І чалавек з гэтай залежнасці выйсці не можа. Бо была гармонія, было супадзенне — па нейкіх унутраных параметрах. Была адпаведнасць. А з гармоніяй і з адпаведнасцю развітацца не хочацца.

Скончыўся любоўны допінг, скончылася "доза" – і пачынаецца самая натуральная "ломка". З пункту гледжання медыцыны ўсё зразумела, але псіхалагічна цяжка. Можа, і невыносна.

Вакол цікавых асоб шмат. Але калі ведаеш, што менавіта гэтым "наркотыкам" не зможаш карыстацца тады, калі захочаш, дык, можа, лепей і наогул не пачынаць?

•

Суботні вечар. Мама ўсіх накарміла вячэрай. Посуд памыты, на кухні прыбрана. Цяпер можна і газету пачытаць. Тым больш, што артыкул надзвычай цікавы. Проста захапляльны!

На кухню заходзіць сын. Круціцца вакол, лашчыцца. Напэўна, хоча звярнуць на сябе ўвагу. Нарэшце забірае з маміных рук газеты і мосціцца на калені:

— Скажы мне, што для цябе важней – я ці газета?

— Вядома – ты! – перакананa кажа маці. – Газета нежывая, а ты – жывы!

— Ну, ладна. Тады чытай!

Вяртае газету. Ідзе далей займацца сваімі справамі. Пераканаўся, што яго любяць. Што ён для мамы самы галоўны. І супакоіўся.

•

Вельмі прыгожая жанчына. І дзве яе дачкі – таксама сапраўдныя прыгажуні. З мужам яна даўно развялася. Кажа:

— У цяперашні час вельмі цяжка захаваць сям'ю.

Канстатуе. Відаць па ёй, што ўжо адбалела. І больш не баліць.

•

Масажыстка. Працуе ў паліклініцы. Паміж сеансамі невялікі перапынак.

— Мужчына і жанчына – гэта зусім розныя істоты. Я наогул дзіўлюся, як яны яшчэ разумеюць адзін аднаго. Бо ўсё ў іх рознае. Мужык не паспее жонку пахаваць, здараецца, ад пахавальнага стала яшчэ ўсё не з'едзена, а ён ужо новую бабу ў дом валачэ. А калі ў жанчыны муж памёр, жыве яна, гадуе дзіця і ніхто ёй асабліва не патрэбен...

•

Школа. Ідзе ўрок літаратуры. Настаўніца, узнёслая і рамантычная натура (якой, відаць, і належыць быць настаўніцы літаратуры) не без пафасу пытаецца:

— Дзеці, якой вам уяўляецца гэта гераіня?

На хвіліну ў класе усталёўваецца цішыня. Потым голас з месца. Магчыма, ён іранічны і нават крыху з'едлівы, і таму так добра кантрастуе з пафасам настаўніцы. А магчыма, прастадушна-шчыры:

— 90-60-90.

Клас грымнуў ад смеху. І ад нечаканасці. Настаўніца спачатку знiякавела, маўчыць, а потым разумее, што вучань называе найбольш прымальныя параметры ўдзельніц конкурсу прыгажосці.

•

Ізноў школа. За акном – май. Заканчваецца навучальны год. І таму настаўніца дыктуе спіс кніг, якія вучні павінны абавязкова прачытаць за лета. Нарэшце яна даходзіць да твораў класіка рускай літаратуры Тургенева.

— Вы абавязкова павінны прачытаць аповесць "Ася"...

У класе – рогат. Заходзяцца ад смеху. Ажно на парты кладуцца.

— Ой, Ася... Цёця Ася... Ой, не магу... Дык пра яе, аказваецца, яшчэ Тургенеў пісаў...

Настаўніца не глядзіць дзень пры дні тэлевізар і таму не ведае, што ў яе вучняў імя "Ася" асацыіруецца з артысткай, "цёцяй Асяй", якая з экрана рэкламуе новы мыйны сродак. А таму з'яўляецца ў кожным доме па пяць разоў на дзень. Калі хочаш і калі не хочаш.

А клас усё ніяк не можа супакоіцца...

І смешна, і сумна, і амаль знакава. Некалі, у дзевятнаццатым стагоддзі, дый яшчэ на працягу дваццатага імя тургенеўскай гераіні было рамантычным сімвалам. Для некага – увасабленнем мары, для некага – ідэалам жаноцкасці. Тургенеўскую Асю хто цяпер ведае? А цёцю Асю з рэкламнага роліка ведаюць усе. Якраз у духу часу...

•

Настаўніца:

— У Еўропе кубачак самай таннай кавы каштуе 1$. Здараецца, што і не адзін долар, а тры, пяць, дзесяць. Іншым разам разважаю: на колькі кубачкаў кавы – самай таннай ці не самай таннай – я зарабляю ў месяц?

У Францыі кваліфікаваны выкладчык музыкі атрымлівае за прыватны ўрок, працягласцю ў 45 хвілін, суму, роўную 100$. А я – добра, калі палову гэтай сумы за месяц...

•

І яшчэ пра грошы. Жыхарам Заходняй Еўропы, а тым больш Амерыкі цяжка сабе ўявіць, як мы можам пражыць у месяц на 50, 80, 100 долараў. Калі цэны ў нас – еўрапейскія. А нам цяжка ўявіць, што служачы амерыканскай установы мае ў канцы года (у тым выпадку, калі ён працаваў добра ці выдатна) прэмію ў памеры 20, 30, 40 тысяч долараў. Цікава, што яны з той прэміяй робяць?



бязбожнік!". І меў падставы. Складаючы анталогію беларускай хрысціянскай паэзіі, я парагледзеў і творчасць Зязюлі. Выбраў усяго адзін верш. Беларуская літаратура ўзяла на сябе задачы зусім інакшыя ад духоўнай — грамадскага будзіцельства, сацыяльнага служэння. Вось гэтая місія была прынятая многімі, хто прыходзіў у паэзію са святарскага чыну.

**У.Конан.** Калега Іван Чарота вяртае нас да спрэчак аб тэрмінах. Гомацэнтрычная культура не ёсць богапакінутасць, калі яна служыць духоўнаму ўдасканаленню людзей.

Л.Рублеўская. Складаецца ўражанне, што калі чалавек свядома піша духоўныя вершы, атрымліваецца з пункту гледжання мастацкіх вартасцяў горш, чым "звычайная", "антрапацэнтрычная" паэзія, а больш падобна на ідэалагічныя "агіткі".

**І.Чарота.** Не трэба рабіць такіх рызыкоўных сцверджанняў. Бывае ў адным радку такі прарыў, выхад да такіх вышынь, якія нам недаступныя.

**С.Патаранскі.** Чаму ж паэзія, якая служыць чалавеку, не можа быць духоўнай? Хіба чалавек не дзіця Божае?

**У. Конан.** Праваслаўная традыцыя занадта раздзяляе два светы — трансцэндэнтны і іманентны, наш свет і той свет. А гэта бліжэй да Старога Запавету. А на самай справе наш свет ёсць твор Боскі. І калі Янка Купала моліцца сонцу, ён, безумоўна, звяртаецца да Бога. Яму няма патрэбы пераходзіць на дагматызм. Што тычыць каталіцкіх паэтаў, то калі святар Казімір Сваяк пачынаў паэтычную творчасць, у яго было яснае ўсведамленне, што ён не казань у касцёле гаворыць, а піша верш. А што да таго, што ў Купалы ёсць багаборчыя матывы, дык багаборчыя матывы пачынаюцца ў Бібліі. Пачытайце кнігу Іова, пра тое, як Іоў вазапіў да Бога,што Той чыніць з ім несправядліва. Больш таго, Іакаў сустрэў у пустыні анёла і змагаўся з ім. Гэта і ёсць архетып багаборства — у добрым сэнсе. "Ты змагаўся з Богам, дык цяпер і чалавекаў бароць будзеш,"— чуе Іакаў.

**І.Чарота.** Няма ніякага багаборства ў добрым сэнсе.

**У.Конан.** Гэта ўсведамленне таго, што свет збудаваны несправядліва, пошук Божае благадаці. Сам Гасподзь Ісус Хрыстос на крыжы заклікаў — "Божа, чаму ты пакінуў мяне?" Гэта плач па богапакінутасці.Уся класічная літаратура духоўная — нават грахоўная. Амаль усе святыя напачатку былі грэшнікамі, ерэтыкамі.

**І.Чарота.** Напрыклад? Назавіце хоць аднаго!

**У.Конан.** Мой святы Уладзімір, хрысціцель Русі. Прыгожае і Боскае ёсць усюды. Як сказана, паэт можа саграшыць кепскім творам, але можа пасля пакаяцца, стварыўшы нешта лепшае.

**Л.Рублеўская.** А ці можа грэшны паэт стварыць твор, які будзе несці хрысціянскія прынцыпы, вучыць святлу?

**У.Конан.** Безумоўна можа.

**Л.Рублеўская.** Нават не пакаяўшыся?

**У.Конан.** Паэт стварае не рассудачна. Гэтаксама споведзь і малітва грэшнага святара вучыць святлу і паднімаецца да Бога.

**Л.Рублеўская.** Інструмент можа быць нявартым, але ім можа быць створана нешта добрае?

**У.Конан.** Неабавязкова каб была толькі дагматычная, "разумовая" арыентацыя на хрысціянства. Паэт усё-ткі не бухгалтар, ён творыць душой.

**Г.Кісліцына.** Хіба душа можа быць "нявартым інструментам"?

**Л.Рублеўская.** Дазвольце зачытаць урывак з хрысціянскай кніжкі, якую я купіла сваёй дачцэ і якая называецца "Что нужно знать каждой девочке": " Кому легче молиться и помышлять о Боге — швее или поэтессе? У последней ум и сердце все время заняты сочинением стихов..." І далей: "Как и всякое богатство, научное познание отвлекает сердце христианина от Бога, а слава человеческая, как ты знаешь, ничего не стоит. В Евангелии сказано: что высоко у людей, то мерзость перед Богам. И не получится ли так, что какой-нибудь писатель или композитор, которого современники восхваляют, называют великим, гениальным, увенчивают лавровыми венками, после смерти пойдет в Геенну огненную. Или восхваляют его после смерти, тогда как ему, несчастному осужденному грешнику, нужнее всего молитва за упокой его души". Я доўга супакойвала сваіх дзяцей пасля прачытання гэтага ўрыўка, што гэта нічога, што я паэтэса, і што ў мяне розум не ўвесь час заняты вершамі.

**Галіна Дубянецкая.** Мы гаворым пра вершы, звернутыя да Бога, да Духа Святога... А што, Бог, Дух Святы — гэта нешта знешняе? Ён ёсць і ўнутры нас.

**Г.Кісліцына.** Я б сфармулявала паіншаму. Бо ўспрымаю Бога, як таго, каму я буду адказваць. Бог не ўнутры мяне, а нада мною.

**І.Чарота.** Ніяк нельга сцвярджаць, што многія святыя былі грэшнікамі. Імкненне да святасці запраграмаванае ў кожным з нас. Іншая справа — як яно рэалізуецца. Дарэчы, за кожнае лішняе сказанае слова нам трэба будзе адказваць.

**У.Конан.** Неяк я гаварыў, што ўсе мужчыны павінны быць або святарамі, або рыцарамі. Яны дапаўняюць адзін аднаго. Без рыцарскага духу на грэшнай зямлі не ўстаяла б Царква Хрыстовая. А што тычыцца граху і святасці, усякая зямная плоць грахоўная ад прыроды, ад прабацькоў Адама і Евы. Абсалютна святы — толькі адзін Бог.

**І.Чарота.** Святары, якія рабіліся паэтамі, бралі на сябе функцыі правадырства, бунтарства. А бунтарства — гэта грэх. Пакліканне і пасвячэнне павінны спалучацца. Але яны не спалучаліся — вось феномен нашай, беларускай, сітуацыі.

**Л.Рублеўская.** Я думаю, што грэх — лічыць сябе інструментам Божым.

У.Конан. Скажыце, Людміла, а тыя самыя пракокі — лічылі, што яны Богам прызначаныя прамаўляць?

**Л.Рублеўская.** Гэта з'ява зусім іншая. Я думаю, што ў самім мастацтве, літаратуры закладзены грэх, бо літаратурны твор прадназначаны для друкавання, для папулярызацыі. Твор мастацтва ці літаратуры ў перспектыве мае прынесці свайму стваральніку матэрыяльныя даброты, славу.Творца можа гэта адмаўляць, не прызнавацца, заганяць думкі аб прызнанні ў падсвядомасць. Але калі чалавек друкуецца, бярэ на сябе такую смеласць прапанаваць тое, што да яго аднекуль прыйшло, невядомай колькасці людзей, і не толькі ў яго часе, ён чакае нейкай рэальнай аддачы. Рэакцыі чытачоў, прынамсі. Рэакцыі крытыкаў. Памяці ў нашчадкаў. Бо галоўны нюанс — што з гэтым канкрэтным творам звязанае канкрэтнае імя. Як вядома, іканапісцы не падпісвалі сваіх прац ці ставілі царкоўнае імя.

**І.Чарота.** Тут я падкрэсліў бы шаноўнаму Уладзіміру Міхайлавічу, што як толькі ў творчасці вылучыўся аўтарскі пачатак, пачалося супрацьпастаўленне Богу. І яшчэ: з усіх заснавальнікаў новай беларускай літаратуры адзін толькі Максім Багдановіч утрымаўся ад гульні з д'яблам.

**У.Конан.** Ніхто не павінен заракацца ад такой гульні. І ў святых былі стасункі з д'яблам.

**Г.Кісліцына.** Не паэт шукае д'ябла — д'ябал шукае паэта.

**У.Гарачка.** А як жа паганскі цыкл Багдановіча?

**І.Чарота.** Практыкаванне ў стылізацыі, белетрызацыя народна-міфалагічных матываў, і не больш.

**У.Конан.** Міфалогія і Біблія па сваёй паэтыцы абсалютна ідэнтычныя. Адзінае што для хрысціяніна існаванне Хрыста — факт, і міф стаў рэальнасцю. І аддзяляць аўтэнтычную міфалогію ад сучаснай, хрысціянскай, немагчыма. Купалле ёсць ачышчэнне чалавека вадой і агнём. А хрышчэнне ёсць таксама ачышчэнне чалавека вадой і агнём, які зышоў з неба на апосталаў.

**Г.Кісліцына.** Але калі прыязджаеш у Ізраіль, то ўспрымаеш Біблію як канкрэтную гісторыю канкрэтных людзей. Гэта палац Саламона, гэта вадаспад, дзе мылася Саламея.

**У.Конан.** Буквалісцкае тлумачэнне Бібліі — адыход ад таго, што было дасягнута яшчэ ў Сярэднявеччы. Свет быў створаны за шэсць дзён, але не чалавечых, а Боскіх. А ў Бога няма нашага часу, Ён над часам і над прасторай.

**І.Чарота.** Разумовае ці мастацкае, ад "суемудрия" — марнага мудравання, асэнсаванне Бібліі, не ёсць духоўнае. Частка нашай сённяшняй тэмы — што ёсць паэзія, якая сама сябе выводзіць за сферы духоўнай паэзіі? Універсальная сістэма самадастатковасці, у межах якой можа існаваць усё — той жа чорны квадрат. Які сам па сабе нічога не нясе.

**Л.Рублеўская.** Затое ён нешта выклікае ў кожнага гледача, можна сказаць, служыць сродкам медытацыі. І выклікае далёка не станоўчае.

**І.Чарота.** Існуе эстэтыка харасства, але, на жаль, і эстэтыка агіднага, якая культывуецца ўжо на працягу другога стагоддзя. Тое, што называюць духоўнасцю, неаддзельнае як ад харасства, так і ад дабра.

**У.Конан.** Усё можна раздзяліць толькі пры дапамозе абстрактнай навукі: дабро ад зла, чароўнае ад агіднага, высокае ад нізкага. А ў рэальным жыцці гэтыя катэгорыі ўзаемапранікальныя. Тут ужо згадваліся словы апостала Паўла — што ў людзей лічыцца высокім, узнёслым, тое "мерзость" перад Богом. І ў гэтым плане ёсць парадаксальная этыка. Тая этыка, якую пачаў распрацоўваць Мікалай Бярдзяеў. Яна азначае творчыя адносіны да праблемы Дабра і Зла. І гэта ёсць супрацоўніцтва з Богам, не прыпісваючы сабе Боскага. Творчая этыка ёсць стварэнне новых этычных каштоўнасцяў, якія абнаўляюць чалавека, грамадства. Нельга глядзець на этыку як на нешта абсалютна застыўшае. І ў старадаўняй этыкі ёсць паняцце парадаксальнасці жыцця. Вучоны ці паэт не можа аб'ектыўна разлічваць: "Я буду служыць Богу". А акажацца, што ён служыў д'яблу.

**У.Гарачка.** Усё роўна можна гэта адчуць.

**У.Конан.** Тое самае адбывалася з камунізмам. Гэта зло, якое стваралася ў імя дабра. Расійскі камунізм запазычыў многія свае прынцыпы ад хрысціянства. У іх была спакуса волі — яны вырашылі, што могуць на зямлі пабудаваць дасканалае грамадства без Бога, фактычна рай на зямлі. А рай на зямлі — гэта хрысціянская ідэя. Апошнія радкі Апакаліпсісу гавораць пра тое, што прыйшло Новае Неба і Новая Зямля.

**І.Чарота.** Сярод камуністаў былі і адкрытыя сатаністы — напрыклад, "культурна-літаратурна-асветны" нарком Луначарскі.

**Г.Кісліцына.** Я не ўпэўнена, што можна гэтак катэгарычна сцвярджаць.

**У.Конан.** Кант казаў, што паэт ці мастак мусіць адмаўляцца ад уласнай волі. А воляй яго становіцца творчасць. І творчасць кіруе ім, а не ён ёй. Таму ў жыцці ён можа быць вельмі жорсткі. Давайце параўнаем антычную ментальнасць і хрысціянскую. У антычнасці бясконцасць асацыіравалася са смерцю. Даказана, што антычныя вучоныя маглі, але не хацелі ствараць вышэйшую матэматыку, аперыраваць з бясконцымі велічынямі. Бо для іх бясконцасць — быў д'ябал. Пекла. А хрысціянін кожны дзень думае пра смерць. А калі кожны дзень думаць пра нешта, яно ўжо не палохае.

**Л.Рублеўская.** Для антычнага чалавека смерць была — пераходам у царства ценяў, сферу поўнай безнадзейнасці і бяздзеяння, калі лепш быць жывым сабакам, чым мёртвым Ахілам. А для хрысціяніна зямное жыццё ёсць падрыхтоўка да наступнага, больш значнага. Але я б хацела задаць прысутным актуальнае пытанне — як жа ўсё-ткі пазбегнуць лёсу, прадказанага Валянцінам Акудовічам для паэтаў — не апынуцца з-за ўласных лепшых творчых намераў на патэльні?

**І.Чарота.** Апошнім часам узнікла запатрабаванасць, можа, перабольшаная, у вершах духоўнай тэматыкі. Нават ствараецца тэматычны напрамак, у які аўтары ідуць свядома. Вось я напішу верш, згадаю там імя Госпада, і гэта будзе сведчаннем значнасці верша, ды і маёй... Тут ёсць небяспека з-за эксплуатацыі тэмы.

**У. Гарачка.** Як і чарнобыльскай.

**Л.Рублеўская.** Апошнім часам выдаваліся анталогіі і "чарнобыльскай" паэзіі, і "хрысціянскай". І там, і там ёсць прыклады "эксплуатацыі тэмы". Але калі з "чарнобыльскай" тэматыкай вызначыцца досыць проста , то ў анталогіі, якую складаў Іван Аляксеевіч, напэўна ж, не ўсё было адназначна і беспамылкова.

**І.Чарота.** Мне ўжо рабіліся закіды, чаму я пісаў пра антыхрысціянскія вершы Купалы. Гэта ж будуць вучыць, маўляў, школьнікі. А што я магу зрабіць? Калі Купала сам выступае як язычнік, чаго я буду яго ў хрысціяне запісваць?

**Г.Кісліцына.** Гэта была праява яго беларускасці.

**С.Патаранскі.** Ён усё жыццё быў свядомым каталіком, наколькі я ведаю.

**У.Конан.** На мой погляд, Янка Купала — непараўнальна больш хрысціянін, чым сённяшнія "новахрышчэнцы", што нядаўна ўспомнілі пра Бога.

**І. Чарота.** І я магу дадаць, чуў ад сведкаў, што Купала — у якім бы ён ні быў стане, ніколі не клаўся спаць, не перахрысціўшыся.

**Л.Рублеўская.** Дык які ж з яго язычнік?

**І.Чарота.** Але беручы на сябе ролю паэта, ён сутнасна мяняецца. Робіцца "прарокам", і ў гэтай справе яму не патрэбен ужо Хрыстос.

**Г. Кісліцына.** Тады ўзнікае пытанне: іудзей ці бахаіст можа быць паэтам?

**І. Чарота.** Чаму ж не... Колькі іх, заслужана прызнаных.

**Л.Рублеўская.** А нехрысціянін-паэт можа ствараць духоўную паэзію?

**І.Чарота.** Адзін паважаны паэт з нагоды складання мною анталогіі хрысціянскіх вершаў накінуўся на мяне: "Калі ў вершы ёсць імя Хрыста, значыць, ён аўтаматычна залічваецца да хрысціянскіх вершаў. А калі я пішу пра любоў — то гэта што, не хрысціянскае?"

**Л.Рублеўская.** А як бы вы пракаментавалі выказванне французскага паэта Андрэ Жыда, які сцвярджаў, што без умяшальніцтва д'ябла немагчымае з'яўленне мастацкага твора?

**І.Чарота.** Мне няма з чым тут спрачацца. Бязглуздзіца. Выштукараным можа быць што заўгодна. Ды калі духоўнасць і слова разведзеныя, калі ў абсалют узводзіцца брыдкаслоўе, пустаслоўе, грэхаслоўе...

**Л.Рублеўская.** А ў сучаснай рускай літаратуры брыдкаслоўе ў літаратурных творах робіцца нормай. Нядаўна ў "Литературной газете" дыскутавалі з гэтае нагоды вельмі паважаныя людзі.

**У.Гарачка.** Можа, у рускай літаратуры брыдкаслоўе цяпер і ўзаконена. Але ж гэта людзі ўзаконілі. А ёсць законы вышэйшыя над людскімі.

**Г.Кісліцына.** Мне здаецца, што духоўная літаратура і клерыкальная — сінонімы. Функцыянальная паэзія, створаная дзеля служэння пэўнай ідэі. Гэта трошкі мінус-паэзія. Нібыта паэт увесь час сябе вывярае: па Богу ён напісаў ці па д'яблу. А паэзія ствараецца не для кагосьці і не для чагосьці. Для мяне хрысціянства — гэта не пошукі ў творчасці. Гэта дзеянне: падаць жабраку, дапамагчы бліжняму. І мне смешна, калі хтось лічыць, што, напісаўшы "духоўны верш", ён бліжэй да Бога.

**Л.Рублеўская.** Калі чалавек пачынае ствараць, ён заўсёды адчувае сябе творцам. Сябе, а не кагосьці іншага, матэрыяльнага ці нематэрыяльнага.

**У.Гарачка.** Няпраўда, не ўсе так.

**Л. Рублеўская.** Памятаю, як у юнацтве захаплялася паэзіяй Лермантава, Цвятаевай, і найбольш іх бунтарскім усведамленнем сябе абсалютнымі творцамі, дэміургамі.

**І.Чарота.** І такая паэзія па знешніх паказчыках, нібыта нават больш стваральная. У тым і спакуса, якую найбольш зведалі рамантыкі-паэты і ідэолагі рамантызму.

**Л.Рублеўская.** Між тым рамантызм і сёння адыгрывае вялікую ролю ў стварэнні нацыянальнага міфа. Згадаць таго ж Караткевіча, яго "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Ладдзю Роспачы"...

**І.Чарота.** Рамантызм у нас часта разумеецца няпоўна, а ў шэрагу выпадкаў замест гэтага тэрміна можна ўжываць іншы — "дэманізм". Трэба размяжоўваць паняцці "творца" і "тварэц". Гэта страшная ілюзія беларускай свядомасці, калі спалучылі ў адным слове і Госпада, якога называюць "творца", і паэта-творцу.

**С.Патаранскі.** Рэлігія і вера — розныя рэчы. Рэлігія — гэта заўсёды палітыка. Усё, што звязанае з верай, — духоўная паэзія. А тое, што звязанае з рэлігіяй, — гэта ўжо называйце, як хочаце. Хрысціянскія вершы — не заўсёды духоўныя. І для мяне асабіста Купалава "Малюся я Богу, зямлі і прасторы... "нашмат вышэйшае за халодныя "духоўныя" вершы, якія я чытаў. І калі ў маладога паэта душа чыстая, яго вершы — не спакуса, а радасць.

**І.Чарота.** Душа чыстая, якая брыду чамусьці піша.

**Г.Кісліцына.** Маецца на ўвазе "кніжка" Сяргея Патаранскага "Сэкс", якую ён так рэкламаваў. На шасці ксеракапіраваных старонках уласнаручна намаляваныя аўтарам палавыя органы і напісаныя ад рукі чатырохрадкоўі на трасянцы, якія тлумачаць, што з гэтымі органамі чытачу належыць рабіць. На платах і ў прыбіральнях, дарэчы, часта пішуць больш таленавіта.

**І.Чарота.** Альбо калі юнае дзяўчо бярэ сабе псеўданім Морт і гуляе з самым сакральным паняццем. Не задумваючыся?

Л.Рублеўская. Гэта, напэўна, тое, што, на думку Валянціна Акудовіча, "бацькі" "Бум-Бам-Літа", ёсць"новай літаратурай"?

**І.Чарота.** Бог дае, Бог і забірае. Як талент, так і розум. Яшчэ адзін з прыкладаў — Анатоль Сыс. Я рэцэнзаваў рукапіс першай яго кніжкі. Прачытаў — і ўразіўся неверагодным талентам. А цяпер што?..

**Г.Кісліцына.** А можна адкрыць сакрэт — ці не вы былі рэцэнзентам кнігі беларускага хоку, якая была "зарэзаная" ў "Мастацкай літаратуры" ў васьмідзесятых гадах?

**І.Чарота.** Я быў. Не ведаю, ці адзіным.

**Г.Кісліцына.** Па аналогіі ўспомніла расповед Алега Лойкі, як ён быў рэцэнзентам кніжкі Алеся Разанава "Каардынаты быцця", дарэчы, маёй любімай кніжкі: "Талент — неверагодны, але "зарэзаў", каб у паэта не было непрыемнасцяў".

**І.Чарота.** Пра кнігу Анатоля Сыса я тады сказаў, што будзе наш вялікі грэх перад літаратурай, калі мы яе не выдадзім.

**У.Гарачка.** Анатоль Сыс — яркі прыклад "прелести".

**Г.Дубянецкая.** А як жа юродзівыя?

**Л.Рублеўская.** Прабач, але я не чула, каб юродзівыя ў імя Хрыста рабіліся п'яніцамі.

**С.Патаранскі.** Кожны паэт адказвае і перад сабой, і перад Богам.

**І.Чарота.** Вось у гэтым і праблема. Таму што трэба адрозніваць — або перад сабой ці грамадствам, або перад Богам.

**Г.Дубянецкая.** А што такое "я сам"? Там хіба Бог не прысутны?

**І.Чарота.** Бог нада мной. Мы пад Богам. А многія хочуць узяць Бога за бараду.

**У.Гарачка.** У нас стэрэатыпнае ўсведамленне духоўнай паэзіі. Лічыцца, што Рыгор Барадулін піша духоўную паэзію. Але ж там ён не ўздымаецца да Бога. А наадварот — спрабуе апусціць яго да сябе.

**І.Чарота.** У мастацкім ліцэі на сцяне фрэска — "Акафіст Уладзіміру". Для чалавека веруючага гэта — шок. З паняццем акафіст нельга абыходзіцца так легкаважна. Што ў пэўным сэнсе тычыцца і "Псальмаў Давыдавых" Рыгора Барадуліна.

*( Працяг на стар. 12 )*

## “Веселый поезд”

Сёння выдавецтву “Юнацтва”, як і іншым дзяржаўным, нялёгка. Таму даводзіцца шукаць шляхі паляпшэння фінансавага становішча. Адзін з іх — выпуск кніг з прыцягненнем сродкаў аўтараў і спонсараў. Падобнае выйсце, дарэчы, шукаюць і іншыя дзяржаўныя выдавецтвы. І ад гэтага нікуды не дзенешся. Іншая справа, што такая дзейнасць не павінна ісці на шкоду мастацкасці. А ў гэтым сэнсе ў дырэктара “Юнацтва” Алеся Камароўскага патрабаванні строгія. У тым, што планка мастацкасці пры выпуску “камерцыйнай” літаратуры трымаецца высока, сведчыць кніга вершаў Яўгена Калашнікава “Веселый поезд”, адрасаваная ў першую чаргу дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Спансіравалі яе



выданне шэраг арганізацый і асоб, якім і аўтар, і “Юнацтва” выказваюць удзячнасць.

Кніга ж атрымалася цікавай, захаплялЬнай. Пачынаючы з першага верша “Сядзела кошка на акенцы”, дарэчы, прысвечаным Я.Калашнікавым памяці сына Ігара.

*Сидела кошка на окошке,*
*На солнце щурила глаза.*
*Решили мыши: дремлет кошка,*
*И вмиг устроили базар.*

Твор пабудаваны ў форме дыялога апавядальніка. Але ён звяртаецца не да хлопчыкаў і дзяўчынак, а да... саміх мышэй, перасцерагаючы іх: “Какие глупые вы, мыши,// Ведь кошка хитрая всё слышит, а щурит оттого глаза,// Что солнце яркое такое,// И без очков смотреть нельзя”. Просіць аўтар, каб мышы хутчэй разбягаліся. Але, як высвятляецца, баяцца няма чаго:

*Но в этот раз не рисковал*
*Никто попасть на завтрак кошке,*
*Ведь их (мышей. — М.Г.)*
*умело рисовал*
*Художник юный на обложке.*

Шмат нечаканасцей чакае дзетак і ў творы, што даў назву кнізе. “Вёселый поезд” — нават не верш, невялічкая паэма-казка:

*По долинам, по горам,*
*По зеленым городам*
*Мчится поезд, мчится быстрый,*
*И поют под стук колес*
*Два веселых машиниста:*
*Васька кот и пёс Барбос.*

Выбар галоўных герояў удалы. Дзетак яны толькі парадуюць, бо яны з тых, хто добра вядомы малечы. А яшчэ больш радасці прынясуць прыгоды, якія адбываюцца ў дарозе. Памятаючы, што шлях няблізкі, машыністы вырашылі прыпыніцца. Усе пасажыры засталіся гэтым задаволенымі. Аднак, калі трэба было ехаць далей, узнікла няўвязка:

*Жмёт на ручку пёс Барбос,*
*Как гармошку морщит нос,*
*Убирает тормоз кот,*
*Только поезд не идет.*

Уся прычына, як высветлілася, у тым, што “носорог между рельсами прилёг”, а паколькі стаміўся, спаў моцна: “Но уже который час// Он раскрыть не может глаз.// Стали все судить-рядить,// Как лентяя разбудить?!” Давялося запрасіць на падмогу слана-велікана. Думаеце, пасля ўсяго цягнік скрануўся з месца? Дзе там! Пакуль будзілі насарога, знік адзін з машыністаў — кот, які таксама вырашыў падрамаць...

Гісторыя вясёлая і, безумоўна, прынясе радасць дзеткам. Як і іншыя творы, бо пераважная большасць іх напісана так, што лёгка запамінаюцца, з нечаканымі сітуацыямі. Гэта тычыцца і вершаў з шмат у чым традыцыйнымі сюжэтамі, так і тых, што напісаны на сучасным матэрыяле. Як гэты — “У меня больной котенок”:

*В десткий сад звонит Алёна:*
*— Я сегодня не приду.*
*У меня больной котенок,*
*Он вчера попал в беду.*

*Искупался в грязной луже,*
*Простудился в ней к тому же,*
*А затем еще и папа*
*Наступил ему на лапу.*

І дзяўчынка прамаўляе: “буду на больничном по уходу за котом”.

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

Сяргей ГРАХОЎСКІ



## Паэзія

І мой скрануўся лёд
У 88-м год...

*Я шукаю паэзію. Дзе ты, паэзія?*
*То ўголас гукаю, то шэптам прашу.*
*Здаецца, на мукі ў пекла палез бы я,*
*Каб толькі сагрэць і суцешыць душу.*

*Дзе ж ты, паэзія? Дзе ты няўлоўная?*
*Шукаю з маленства*
*да крайняй мяжы.*
*Знаходзіў драбніцы, а траціў галоўнае,*
*Ад гора сябе распінаў на крыжы.*

*Прасіліся ў сэрца харэі і ямбы,*
*Спяшаўся паставіць радок на крыло*
*Здавалася, ў радасці*
*ўзняўся і сам бы.*
*Ды толькі паэзіі ўсё ж не было.*

*Сапраўдных паэтаў лічыў я Багамі,*
*Паэзія іх у бяссмерце вяла.*
*Нарэшце і сам зразумеў:*
*пад нагамі*
*Паэзія ў кожнай расінцы жыла,*

*Жыла і жыве і ў травінцы, і ў слове,*
*У светлым і ў самым*
*пякельным жыцці,*
*У вечнай, нікім не закрэсленай мове,*
*З якою ад веку да веку ісці.*

*Паэзія — ў шолаху жыта і бору,*
*У мудрасці мудрых, у ззянні вачэй,*
*У золку, калі — непагасныя зоры,*
*У бляску маланак трывожных начэй.*

*Паэзія — ў ясным разважлівым зроку,*
*У сэрцы збалелым і чыстым заўжды,*
*У шчырай усмешцы, упэўненым кроку,*
*У горкай слязінцы ў хвіліну бяды.*

*Паэзія — шчасце,*
*што цяжка прыкмеціць,*
*І часам відушчы, нібыта сляпы,*
*З калыскі да скону блукае па свеце,*
*На радасць, спагаду і ласку скупы.*

*Шукаю Паэзію змалку да скону,*
*А я ж паўмільёна дарог абышоў.*
*Гляджу на Паэзію, як на ікону.*
*Шукаю яе.*
*І наўрад ці знайшоў.*

**24/IX—2001**

## Спадзяванне

*На чужым вясёлым свяце*
*Мне ні пець і ні скакаць,*
*Бо ўмею шчодра траціць,*
*І не ўмею здабываць.*
*Марыў, як дайсці да раю,*
*Каб усё, што трэба мець,*
*Толькі ашуканцаў зграю*
*Мне ніяк не адалець.*
*Махляры і спекулянты*
*Ўмеюць шчасцем даражыць,*
*Ну, а мне даношваць транты,*
*Покуль суджана пражыць.*
*Але ёсць усё ж надзея:*
*Прыйдуць лепшыя гады,*
*Калі злыдні і зладзеі*
*Ў свеце знікнуць назаўжды.*

**22/IX—2001**

## Запознены ўспамін

*Я помню і тых, чые вусны гарчылі,*
*Чые вусны ад мёду былі саладзей,*
*Таемныя шэпты,*
*што шчасцю вучылі,*
*І помніцца боль безнадзейных надзей,*
*І вочы, і косы, і цёплыя рукі,*
*І ўсё, што сплыло,*
*як няспраўджаны сон.*
*Гады праляцелі: унучкі і ўнукі —*
*Надзея шчаслівейшых*
*заўтрашніх дзён.*
*Дарогі мае пазавейвала замець,*
*Даўно незнаёмыя “дзедам” завуць.*
*І цепліцца толькі балючая памяць,*
*І любыя ў памяці толькі жывуць.*

**25/IX—2001**

## Ліквідатары

*Ліквідатар памаленьку*
*Знішчыў вальс і “Польку-Еньку”.*
*Заключыўшы з д’яблам змову,*
*Родную зняважыў мову.*
*Цешачы сваю натуру,*
*Збэсціў і літаратуру,*
*Напладзіў навацыі*
*Невядомай нацыі —*
*Назвы, абрэвіятуры —*
*“Знак вышэйшае культуры”,*
*На праспектах і на рынку*
*Нельга разабраць лацінку.*
*У кнігарнях — у актыве —*
*Дэтэктыў на дэтэктыве:*
*Грэх на скверы і на койцы,*
*І парады для забойцы.*
*З добрай прозай заадно*
*У тупік зайшло кіно,*
*Цісноць хамуты тугія*
*Сцэну і драматургію.*
*Распладзіліся, як мухі,*
*Безгалосыя піскухі,*
*Салютуюць коркамі*
*І завуцца “зоркамі”.*
*Адбяры ў іх мікрафоны,*
*Разляцяцца, як вароны.*
*А ў застоллі ці на сходзе*
*Песень не чутно ў народзе:*
*Бабкі нашыя адпелі,*
*А ўнукі анямелі.*
*Зранку “музыка” да ночы*
*Жалязякамі грукоча.*
*Як ні пніся, хоць ты трэсні,*
*Ні адной не ўспомніць песні:*
*Люд не танчыць, не спявае, —*
*Сваю радасць прапівае.*
*Некаму, відаць, з рукі*
*З голым задам “співакі”.*
*Нелегальныя касеты*
*Рэкламуюць прайдзісветы.*
*Кожны “ліквідатар” рад*
*Хітры выканаць загад.*
*Як жа гэта ўсё завецца?*
*Ты хоць плач, а ён смяецца.*
*“Навізны” аматары —*
*Гора-ліквідатары.*

## Дробныя мае каралі, што нікога не каралі

1.
*Калі душа і сэрца засмыліць,*
*Пішу пра тое, што баліць,*
*Хоць і жыву ў паняверцы,*
*Лягчэй становіцца на сэрцы.*

2.
*Я — госць у вас, а вы — гаспадары,*
*Належыць вам наступнае па праву.*
*Я вам у спадчыну пакіну не дары,*
*А важныя няскончаныя справы.*

3.
*Рагоча хлус і зубы шчэрыць,*
*Хоць і наскрозь увесь відзён:*
*Яму даўно ніхто не верыць,*
*Хоць часам праўду скажа ён.*

4.
*Цяпер не многаму я рад:*
*Дажыць бы толькі да Каляд,*
*Каб паглядзець, што заўтра будзе,*
*Ці ўсе паразумнеюць людзі,*
*Каб зніклі тэрарысты і забойцы,*
*І ашуканцы, і прапойцы.*

5.
*Разумных служак да пары*
*Трымаюць пры сабе гаспадары,*
*Каб у трывожную хвіліну*
*Часамі не падклалі міну.*

6.
*Свае жаданні не хачу хаваць:*
*Хацеў бы сам сабой пакіраваць.*

7.
*Хаджу, як цюцька на вяроўцы,*
*Па гандлёвай Камароўцы,*
*І, як у даўнія часы,*
*Не купляю каўбасы.*
*Нясу пусты дадому ранец,*
*Бо я — веге-тары-янец*

8.
*Магчыма, ў памяць Авіцэны*
*Выраслі ў аптэках цэны.*
*Інваліды і калекі*
*Не купляюць часта лекі:*
*Робяць ванны і прыпаркі,*
*Ці пры дапамозе чаркі*
*Трохі прадаўжаюць век*
*Так, як кожны чалавек.*

9.
*Ёсць вершаў розныя калібры,*
*Адразу і не ўспомніш іх,*
*Ды добра знаю,*
*што верлібры*
*Глухія пішуць для глухіх.*
*Паэткі часам і паэты*
*Не вершы строчаць,*
*а версэты,*
*Хоць аўтары і маладыя,*
*А ўжо заела арытмія.*
*Суцешу хлопцаў і дзяўчатак,*
*Што МУЗА —*
*музыкі пачатак.*

10.
*Не хочацца развітвацца са светам,*
*Але суцешыў колішні мудрэц:*
*“Так, як зіма ідзе за летам,*
*Так мае ўсё пачатак*
*і канец”.*

11.
*У пятніцу я часта плачу*
*Ад жалю, болю і трывог,*
*Што дарагіх і блізкіх трачу,*
*У “ЛіМ’е” прачытаўшы некралог.*

12.
*Зручней другіх вініць,*
*А не сябе няволіць.*
*Лягчэй забараніць,*
*Куды цяжэй дазволіць.*
*Такім асновам рад*
*Звычайны бюракрат.*

13.
*Як трывожна і горка*
*Ведаць гора Нью-Йорка.*
*Я Бога малю і прашу*
*Берагчы за душою душу,*
*Каб у шчасці заўсёды жылі*
*Ўсе сумленныя людзі Зямлі.*



ПРОЗА

Леанід Маракоў

# Госці

АПАВЯДАННЕ

Яны ўвайшлі без стуку. Ды і навошта было стукацца: дзверы стаялі нарасхліст. Калі бабуля варыла што, яна іх адчыняла. У хаце не было сенцаў ці пярэдняй, дзверы з двара вялі проста ў кухню.

Не падаў голасу з будкі і белы ў рыжыя плямкі Тузік, малалетні прадстаўнік адважнай "дварнякоўскай" пароды. Адчуў: на гэтых гасцей лепей не брахаць і смеласць сваю не паказваць. Яны — у ботах. А як балюча ўпіваецца ў цела бот, Тузік добра памятаў. Не так даўно паспытаў такое "ласкі". "Абследаваў" недалёкую чыгуначную станцыю "Мінск-Паўднёвы" і напароўся на міліцыянера — лютага ненавісніка ўсялякай чацвераногай жыўнасці. Тут жа атрымаў "левай штуршковай". Адляцеў метры на тры. З таго часу накульгвае, а калі ўбачыць боты, пачынае дыхаць часта-часта, як у летнюю спёку.

Госці не пастукаліся, але без шуму ўсё ж не абышлося: загрымеў, упаўшы з прыступак, драўляны, на колах-падшыпніках, Санькаў "танк". Так бабуля называла ўнукаў самакат, які ён сам і змайстраваў. Санька ганарыўся, што ягоныя "колы" самыя хуткія на вуліцы, і часам вывозіў іх з гаража-хлеўчыка "для прагонкі" нават зімою.

Першым увайшоў пажылы са сплюшчаным, быццам з-пад прэса, тварам і густымі чорнымі брывамі, моцна збіты мужчына, відочна старэйшы і па ўзросце, і па званні. Гэта ён адкінуў "танк" з дарогі, сказаўшы:

— Чортавы бульбашы! Заставяць уваход усялякім барахлом, ногі папераломваеш!

Яшчэ з парога ён галодным бегатлівым поглядам павёў у бок керагаза: што там гатуюць недабітыя буржуі?

Другі — малады, стрыжаны "пад вожык", даўганогі, з гладкімі, адно ў светлым пушку, шчокамі — зайшоў нерашуча: гэта было яго першае "баявое хрышчэнне". Вось так уломвацца ў чужое жытло яму да гэтага часу не даводзілася — таму і быў трохі збянтэжаны, скаваны. Ён, быццам прысаромлены за нешта благое школьнік, утаропіўся ў падлогу. Пры гэтым новы, відаць, толькі што атрыманы пад распіску казённы цёмна-зялёны гальштук споўз набок, а вялікія, як у свінні, вушы (была б яго воля, ён, вядома, не стрыгся б так коратка) адтапырыліся, нібыта хацелі пачуць нешта няўлоўнае. У ім змагаліся два пачуцці. Першае цягнула назад: пайсці, збегчы, каб не корпацца ў чужых рэчах, у чужым жыцці. Другое штурхала ў спіну: не бойся, дзейнічай, глядзі, як заеліся ў сям'і ворагаў народа! І сыноў у расход пусцілі, і гаспадара на катаргу ўпяклі, а што гэта дало? Старая карга жыве сабе, унука гадуе і бяды не ведае. Вось і ўвесь вынік! Добра, хоць народ не спіць, сочыць, піша. На днях невядомы таварыш далажыў: шыкуюць па нечай добрай літасці недабітыя нацыяналісты...

Старэйшы прыжмурыўся ў паўцёмнай безваконнай кухні:

— Ты, гаспадыня, не зіркай з-пад ілба. Сама ўсё ведаеш, не ўпершыню правяраем. Мы не бандыты з вялікай дарогі. Так што варушыся, паказвай, чым багата. Кажуць, нямала нахапала, пакуль савецкая ўлада на нейкі час пра тваю сямейку забылася...

Худая, з вялікімі шэра-блакітнымі вачыма, якія выдавалі былую прыгажосць, з густымі, пабітымі сівізною, сабранымі ззаду празрыстым шырокім грэбнем у куксу валасамі, старая, гледзячы не на гасцей, а як бы ў нікуды, ціха, але выразна вымавіла:

— Дзверы адчынены, праходзьце, шукайце, калі што згубілі. Але ўсё вартае забралі даўно...

— Ты прапаганду не разводзь! Глядзі, дагаворышся! — перабіў яе, працягваючы тыкаць, старэйшы. — І вядзі ў хату, не стой, як укапаная!

Гаспадыня саступіла набок, і госці (малодшы крыху павагаўся, быў, пэўна, сапраўды збянтэжаны такім непаважлівым абыходжаннем са старой жанчынай) прайшлі ў вузкі калідор, а з яго — у пакой, які служыў адначасова і спальняю, і гасцінай.

— Няблага ўладкаваліся, — пракаментаваў старэйшы, акінуўшы пакой позіркам. — А абраз які! І колькі ж такі цуд каштуе? Не маўчы, гаспадыня, не маўчы, да цябе звяртаюся. Абраз, відаць, пазалочаны, на сотні, а то і на ўсю тысячу пацягне?

— Ад бацькі застаўся. Дарэвалюцыйны. Яго нават у трыццаць шостым не забралі...

— Ты нас не вучы, што браць! Самі разбяромся! Ад бацькі, кажаш, застаўся? А за колькі бацька прыдбаў гэтую прыгажосць? — упіўшыся поглядам у пазалочаныя валасы Маці боскай, перапытаў старэйшы. — Дарагая рэч, каштоўная, і дурню відаць...

— Для мяне ёй цаны няма, — адказала гаспадыня.

— Ты нам мазгі не пудры! — загарачыўся аматар антыкварыяту, але, убачыўшы, што старая рашуча падышла да абраза, быццам рыхтуючыся яго абараняць, падаўся назад. — Э-э... З маткай боскаю можна і пасля разабрацца... Вунь у куце, — падказаў малодшаму, — гара трантаў звалена. Можа, пад ёю што цікавае ляжыць. Паварушы змяіны клубок, прывыкай...

"Безыменныя, — падумала гаспадыня. — Як і тады, калі мужа, а пасля сына бралі: баяцца назваць адзін другога па імені..."

Малодшы падышоў да трантаў. Ступіў на дошкі, пад якімі гаспадар яшчэ ў дваццатыя зладзіў тайнік. Тады ў ім схавалі невялікі, але сапраўды каштоўны абраз — падарунак "своечасова" збеглай ад бальшавікоў радні (павялічаная копія яго вісела цяпер на сцяне). Пазней у тайніку знайшоў сховішча самаробны ўсехвалевы радыёпрыёмнік, які настройваўся звычайна на "нестандартныя" дзевятнаццаць метраў радыё "Свабода", даваенныя і нават дарэвалюцыйныя кнігі, некалькі цудам не канфіскаваных ("забыліся" на момант вобыску ў суседзяў) часопісаў "Маладняк", "Полымя", "Узвышша", "Наш край", сямейныя і іншыя фатаграфіі. Некаторыя з іх зусім не прызначаліся для чужых вачэй. На адной, напрыклад, гаспадар быў сфатаграфаваны ў кампаніі пяцёх іншых удзельнікаў Першага Усебеларускага Кангрэса — Аляксандра Вазілы, Міхася Гольмана, Ігната Дварчаніна, Язэпа Мамонькі, Кастуся Езавітава. Зняліся каля будынка тэатра, у якім праходзіў кангрэс. Першых чатырох арыштавалі праз дзень, пятага схапілі пазней. На другой фатаграфіі старэйшы сын гаспадара і Янка Купала сядзяць за шахматнай дошкаю-столікам, а за імі назіраюць сябры-балельшчыкі, у недалёкай будучыні — ворагі народа "нацдэмы" Міхась Чарот, Алесь Дудар, Уладзімір Хадыка, Васіль Каваль...

Малодшы нейкі час марудзіў, не рашаўся чапаць чужое адзенне — старыя паліто, паддзёўкі, якія ратавалі бабулю з унукам, калі на двары лютаваў мароз або віхурыла мяцеліца. Але нядоўга: перасіліў сябе, праглынуў камяк, што быў падступіў да горла — працягнуў руку да кучы трантаў. Аднак браў іх асцярожна, быццам баяўся: а раптам там і сапраўды затаілася якая змяя ці пацук? Незнарок злавіў погляд старэйшага, зразумеў: трэба дзейнічаць смялей, актыўней, больш рашуча — і параскідаў адзенне па падлозе. Прыгледзеўся да дошак, на якіх толькі што ляжала рыззё. Не заўважыўшы нічога падазронага, зрабіў крок назад, і тайнік зноў аказаўся ў яго пад нагамі.

"Добра стаіць, — цягнуў шыю з-пад бабулінага локця і радаваўся Сашка. — Няхай бы да канца вобыску гэтак..."

Але "вучань" быў хлопец малады, шустры, да таго ж ён усё для сябе ўжо вырашыў, зрабіў свой выбар — ступіў крок да акна, да Сашкавага ложка, даваеннага, яшчэ "нэпманаўскага".

Спінкі ложка былі ўпрыгожаны бліскучымі нікеляванымі шарыкамі памерам з невялікі яблык. У стойцы пад адным з іх у Санькі меўся свой тайнік. Там ён хаваў алюмініевы крыжык, тузін польскіх і нямецкіх манет, восем "царскіх" папяровых рублёў, кукарду ад палявой афіцэрскай фуражкі пачатку веку, маленькі дзіцячы бранзалецік, ювелірна сабраны з кавалачкаў дрэва і металу невядомым турэмным умельцам, дзедавым сябрам і аднадумцам (на ўнутраным баку бранзалета было выгравіравана: "Жыве Беларусь!"). Але самым небяспечным са схованага ў тайнічку Санька лічыў згорнуты ў трубачку аркушык паперы з клятваю, пад якой яны з сябрамі падпісаліся.

*"Мы, піянеры Савецкага Саюза — А., Ц., С. і Л., — ствараем тайнае таварыства, задачай якога з'яўляецца канструяванне міні-верталёта для падарожжаў па зямным шары і азнаямлення з жыццём іншых народаў. Клянемся..."*

А. — гэта Аляксандр — сам Санька, стваральнік і кіраўнік "арганізацыі".

Ц. — Цімка, дружбак з дома насупраць, "намеснік па гаспадарчай частцы". У іхнім хляве, што стаяў у глыбіні саду, было беражліва складзена мноства розных дошчачак і брусочкаў, два-тры фанерныя шчыты, алюмініевыя трубкі рознай даўжыні і дыяметра, жалезныя вугалкі, іншыя патрэбныя рэчы — Цімкаў бацька быў вядомы ў наваколлі майстар і працаваў "пры начальстве".

С. — другі іхні сябрук Сяргей, які стала жыў у Мурманску, але ўсё лета праводзіў з "камандаю" на "чыгунцы"; ён быў сынам вядомага палярнага лётчыка і таму адказваў за праектаванне "аб'екта".

Л. — Людка — самая прыгожая на іхняй вуліцы дзяўчынка, першае Санькава каханне. А плюс да ўсяго актыўная змагарка за справядлівасць. Ёй нават удалося адпомсціць вышэйназванаму "сябру жывёл" за Тузіка. Міліцыянер хадзіў на работу паўз яе дом. У пустую каробку з-пад абутку Людка паклала цагліну. Міліцыянер быў вялікім аматарам па-футбольнаму памахаць нагамі і заехаў ботам па каробцы, што валялася на сцежцы. Ох і лямантаваў жа бугай у міліцэйскай форме! Да станцыі кульгаў, захлынаўся мацюкамі. "Гэта табе за Тузіка!" — прыгаворвала, грозячы яму ўслед кулачком, Людка...

"Жах!" — выдыхнуў Санька, прыгадаўшы тэкст клятвы, але скеміў імгненна.

— Тут сплю я, — падышоў да ложка. — А гэтую падушку мне бабуля падарыла нядаўна, на дзень нараджэння, — падказаў праваральшчыкам "патрэбны кірунак".

— А-га-а! — заспявалі-завялі госці дуэтам, праглынуўшы прынаду. — Падушка што трэба!

— Ну і як? — падміргнуў Саньку малодшы. — Не мулка спіцца на абноўцы? Нешта ж яна вельмі цвёрдая...

Ён падкінуў падушку, злавіў, пакруціў сюд-туд, сціснуў далонямі, абмацаў па ўсіх ражках. Не выявіўшы нічога падазронага, кінуў на падлогу, узяўся за матрац. Не знайшоўшы кампрамату і ў ім, паціснуў плячыма і павярнуўся да старэйшага:

— Нічога. Падушка як падушка, і ў матрацы — адна салома...

— Няважна! — рыкнуў той. — Не веру, каб у бярлозе белагвардзейскага афіцэра нічога каштоўнага не знайшлося! Адчуваю, хаваюць нешта. Глядзі, як падазрона ў малога вачаняты бегаюць...

Добры нюх меў старэйшы, сабачы. Ён, напэўна, часта знаходзіў тое, што шукаў. У дадатак быў і назіральны: Санькаву нервознасць адразу засек. Але гэтым разам ён дарэмна палез у камоду з бялізнаю. І заўсміхаўся, абрадаваўся рана: маўляў, во дзе прыхавана золата! А між іншым, бальшавікі сумленна "вычысцілі" хату яшчэ ў дваццатым, нават заручальны пярсцёнак у гаспадыні з пальца садралі...

— Першая паліца — не паказчык, — каменціраваў ён свае пошукі ў камодзе, навучаючы заадно жыццю калегу-навічка. — Другая... Другая такс-сама... А вось і знаходка! — выняў, радасны, некалькі дзядулевых пісьмаў, прысланых з Сібіры. — Я ведаў, што ў гэтым доме калі не золата, дык "палітыка" абавязкова знойдзецца! Ужо цяплей... Лісты — у папку. З імі пасля разбяромся... Пайшлі далей... Камода — пустая... Цяпер — сервант... Стары, мажліва, з сакрэтамі. Памажы, — паклікаў напарніка. — Адсунем яго... Заднюю сценку быццам не чапалі... А што ў шуфлядах? Відэльцы, лыжкі... Што ўверсе? Кубкі, падшклянкі... Сярэбраныя ёсць? Не маўчы, гаспадыня, да цябе звяртаюся! — павысіў голас. — Адкуль? Ты мне пытанняў не задавай. Глядзі, асмялела! Забылася, як... — хацеў асвяжыць яе памяць, але, пагледзеўшы на памочніка, перадумаў. — Я з табою пасля разбяруся! У іншым месцы... Добра, а што тут? Талеркі? І ўсё? — рэзка павярнуўся да напарніка. — Чорт бы іх пабраў! Прайдзіся, а я паслухаю. Можа, якая маснічына пра гэтую сямейку што-небудзь раскажа...

Наконт маснічыны ён правільна скеміў. Але, калі ягоны вучань наступаў на "патрэбныя", тыя не рыпелі, бо хадзіў ён не па голых дошках, а па раскіданым па ўсёй хаце адзенні.

"На месца рэчы трэба класці", — параіў яму Санька ў думках.

Даўганогі "абтаптаў" усю падлогу — дошкі маўчалі.

— Няма часу, яшчэ два дамы наперадзе, — сказаў раптам старэйшы, зірнуўшы на гадзінік. — Трэба спяшацца... Шкада, сцены не прастукалі, хоць шпалеры, здаецца, не мяняліся... Узарваць бы падлогу, ды час падціскае... Ну нічога, не апошні раз...

Госці вярнуліся ў вузкі калідор, прайшлі ў пачакальню-кухню. Керагаз не гарэў. Старэйшы зразумеў гэта па-свойму:

— Бачу, гаспадыня не запрашае гасцей да стала? Мы да яе па-добраму, па-чалавечы, а яна, значыць, вось як... Ясна! Гарбатую магіла выпраміць...

Бабуля маўчала. Санька хацеў адказаць за яе і заадно спытаць пра дзедавы пісьмы, але яна прыціснула ягоную галаву да сябе...

Госці пайшлі да веснічак: можа, у іншых дамах што-небудзь каштоўнае адшукаецца?

Бабуля прысела на табурэтку ля парога, цяжка задыхала. Санька ведаў, што будзе далей. Яна пагладзіць яго, скажа: "Схадзі на двор, пагладзі, што там..." А сама горка заплача, пачне стагнаць, біць маленькімі сухімі кулачкамі сябе па каленях і пасля доўга, ці не ўсю ноч, будзе нешта шаптаць, прыгаворваць...

Санька выйшаў у двор, падняў самакат. Адштурхнуўся, пакаціў па лёдавай дарожцы між дрэў. Пад арэлямі "спешыўся", падышоў да любімай яблыні. Пагладзіў яе. Спытаў:

— Бачыла? Яны абшуквалі хату, палохалі, хацелі, каб я здаўся, усё расказаў...

Пачуў:

— Колькі разоў ты падаў, спрабуючы ўскараскацца на маю верхавіну? Падаў, але ўставаў, перамагаў боль, не здаваўся, не хныкаў. Ніколі і ні перад кім не станавіся на калені!...

Падбег Тузік, пацёрся, прасіў пашкадаваць яго. Санька пагладзіў сябра: "Нічога, адаб'ёмся..." Агледзеўся. Дзень быў цудоўны: снег, лёгкі марозік, халаднаватае, але яркае сонца. Зляплены раніцаю снегавік пазмоўніцку падміргнуў яму: не бойся, гэта ж наш сад, мы тут гаспадары...

Да новага года заставалася нямала часу — цэлы вечар. Яны яшчэ паспеюць прыбраць ёлку. Цацкі падрыхтавалі загадзя: увесь апошні тыдзень рабілі з паперы розных жывёлін, птушак, рыбаў, гномікаў, выразалі сняжынкі... Усё расфарбавалі... Нават дзеда Мароза бабуля пашыла...

— Усё будзе добра, — прашаптаў Санька ці то сабе, ці то яблыні, адчуваючы, як холад прымушае яго дрыжаць, калаціцца ўсё мацней і мацней.

Тады Санька не разумеў, што гэта быў не холад, а — страх...


Мал. А. КАШКУРЭВІЧА



ЧАСАПІС

### Дзень Ізяслава і Соф'і

**Паэты Ізяслаў Катляроў і Соф'я Шах жывуць у Светлагорску, у якім, як падкрэсліў неяк адзін з нашых пісьменнікаў, яшчэ больш светла ад гэтых светлых людзей. А нядаўна яны правялі дзень у Гомелі, і прайшоў ён для Ізяслава і Соф'і надзвычай цікава, творча. Паэты былі прыняты старшынёй аблвыканкама Аляксандрам Якабсонам, пры непасрэдным удзеле якога ў Светлагорску была заснавана карцінная галерэя. Сёння яе, дарэчы, узначальвае І.Катляроў.**

**Потым паэты наведалі майстэрню мастака Мікалая Казакевіча. А ў канцы дня Ізяслаў Катляроў і Соф'я Шах былі жаданымі людзьмі ў "Літаратурнай гасцёўні на Замкавай", якая працуе пры гарадской бібліятэцы імя Герцана. Пра жыццёвы і творчы шлях паэтаў са Светлагорска распавяла супрацоўніца бібліятэкі Наталля Малашэнка, сваімі ўражаннямі аб іх творчасці дзяліліся калегі — старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Васіль Ткачоў, празаік Анатоль Бароўскі, мастакі Мікалай Казакевіч і Святлана Курашова. Маладая паэтэса Інэса Касцюкевіч прачытала верш, прысвечаны Соф'і Шах.**

**А потым у выкананні гасцей гучалі вершы. Былі кветкі, апладысменты, аўтографы...**

**Загадчыца гарадскога аддзела культуры Людміла Альхавікова пажадала І.Катлярову і С.Шах новых творчых поспехаў.**

**Чым не шчаслівы дзень для Ізяслава і Соф'і!**

**Васіль БАРХАНАЎ**

### "Куфэрак Віленшчыны": чацвёрты выпуск

**Ва ўмовах, калі падаюць тыражы дзяржаўных часопісаў, знаходзяцца ініцыятыўныя і ў адначассе аддадзеныя беларускай справе людзі і выпускаюць, складаюць досыць грунтоўныя перыядычныя выданні. Як прыклад — гісторыка-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі часопіс Віленскага краю "Куфэрак Віленшчыны" (галоўны рэдактар — Міхась Казлоўскі). Нядаўна пабачыў свет ужо чацвёрты нумар. Прысвечаны Адольфу Клімовічу, ён складаецца з публікацый 14 аўтараў (Эдурд Корзун выступае з трыма артыкуламі).**

**М.Казлоўскі знаёміць з А.Клімовічам у артыкуле "Нашчадак слаўных крывічоў". У раздзеле "Паданні роднага краю" — нарыс Э.Корзуна "Легенды Гальшанскага краю". Падаюцца ўспаміны К.Харашэвіча. Друкуецца працяг мемуараў Г.Каханоўскага "Крокі майго жыцця". Ёсць у нумары і раздзелы з гістарычнага рамана Пятра Бітэля "Развал". У свой час гэты твор адхілены выдавецтвам "Мастацкая літаратура".**

**П.Бітэль, дарэчы, пакінуў пасля сябе велізарную літаратурную, краязнаўчую спадчыну. Відавочна, наспела пара і айчыннай літаратурна-мастацкай крытыцы звярнуць сур'ёзную ўвагу на зробленае творцам, які прайшоў праз многія выпрабаванні.**

**А ў раздзеле "На хуткіх крылах вольнага Пегаса" — вершы Таісы Трафімавай і Віктара Шніпа.**

**Кастусь ХАДЫКА**

### "Мастацтва", № 8

**"Асаблівасці нацыянальнай рыбалкі з тэлевяшчальнай сеткай" — роздум Н. Фральцовай пра стан сучаснага Беларускага тэлебачання. Друкуюцца артыкулы Т. Гаробчанкі "Чаму сумуе Фігаро?", Л. Грамыкі "У завеі творчых пошукаў", Т. Арловай "На канцэрце рэжысёрскай фантазіі", А. Коўрык "Дар любові і надзеі", М. Купавы "Калі адхінуць заслону часу...", М. Цыбульскага "Праекцыя вобраза і знака", С. Уланоўскай "Не спыняцца на дасягнутым...", К. Бандарэнкі "Ідэя гульні — ад строгасці да свабоды", Л. Лысенкі "Філасофія жыцця Аляксандра Канавалава", М. Грамыкі "Малады мастак "на ростанях"...", Г. Цэрхузена "Фатаграфія і рынак", А. Лявонавай "Героі часу" жывуць па-за часам", В. Угрыновіч "Прырода гаворыць фарбамі", Ю. Васільева "Запозненая "першая ластаўка" і іншыя матэрыялы. Ёсць у нумары "Хроніка мастацкага жыцця",**

ЎРАЖАННЕ

# Душэўны дыялог

***Спектакль Малога тэатра "Я жыць хачу..." ("Гульня ў джын"), прэм'ера якога адбылася ў мінулым сезоне, здаецца цяпер вельмі актуальным: на сцэне двое герояў не скараюцца абставінам жыцця, а змагаюцца за годнае існаванне. І хочуць жыць, дыхаць на поўныя грудзі... старыя, якія ператвараюць свае апошнія дні ў доме састарэлых у радасны карнавал пачуццяў. ("Гэта п'еса аб мужчыне і жанчыне, а не аб старасці, хаця і ўзрост тут іграе значную ролю", — сцвярджае драматург Д. Корбун.) У камерным спектаклі на двух акцёраў цудоўна вядуць свае ролі Юры Сідараў і Зоя Асмалоўская, якія дэманструюць гледачам сапраўдны "майстар-клас", трымаючы глядацкую ўвагу на працягу ўсяго спектакля. Са сцэны ў залу ідзе моцная энергія жыцця...***



Цікава і з густам зроблена сцэнаграфія спектакля. Нічога лішняга. Кожная рэч мае сваё месца і цярпліва чакае свайго часу, калі ёй загаварыць. Усю прастору сцэны ўпэўнена займае круглы моцны стол і два крэслы. На пачатку дзеяння яны абгорнутыя цэлафанам. Ствараецца ўражанне, што гэта мэблевы склад альбо схаваная ад дажджу пад празрыстым покрывам мэбля. Але і ў адным і другім выпадку стол і крэслы не выдаюць утульнымі, абжытымі. Да вечка стала не хочацца дакранацца, здаецца, што на крэслах сядзець нязручна і няёмка. У гэтых рэчах няма гаспадара і няма дома — той утульнай атмасферы еднасці блізкіх людзей. І аб якой утульнасці можна марыць у доме састарэлых? Але па меры таго, як героі пераадольваюць сваю адчужанасць і адзіноцтва, паступова знікае цэлафан — спачатку з аднаго крэсла, потым — з другога, са стала. І ў выніку, паддаючыся разбуральнай і адначасова жыццесцвярджальнай энергетыцы Велера Марціна (Ю. Сідараў) і Фонсіі Дорсі (З. Асмалоўская), мэбля рухаецца, падае, рыпіць, адгукваецца глухімі драўлянымі гуламі на нервовыя рухі герояў — адным словам, жыве...

Акрамя галоўных герояў, у спектаклі задзейнічаны і "другасны" акцёрскі склад: калода ігральных карт. Невыпадкова двайная назва спектакля. Кожная назва характарызуе адну з паралельных тэматычна-ідэйных ліній. Першая "Я жыць хачу..." датычыцца індывідуальных чалавечых стасункаў Велера і Фонсіі. Другая назва "Гульня ў джын" уздымае чалавечае жыццё да сімвалаў. Багаты жыццёвы вопыт

ВЫСТАВЫ

# Падарожны дзённік Віктара Альшэўскага

Менавіта падарожным дзённікам можна назваць новую выставу Віктара Альшэўскага "Лісты часу". Яна распачала чарговы "сезон" у мастацкім цэнтры "Жыльбел" і, магчыма, адкрыла новы ліст у творчасці самога мастака.

Жанр падарожнага дзённіка ў сучасным свеце досыць рэдкі. Сёння губляецца сама каштоўнасць уражанняў ад падарожжа, яны неяк ненавязліва-хутка знайшлі замену ў каляровых буклетах і турыстычных даведніках. У XIX ст. быў толькі адзін знакаміты Паганэль, які падарожнічаў па свеце, седзячы ў сваім крэсле. Сёння ж досыць уключыць тэлевізар... Як паяднаць свет, пабудаваны на прыярытэце інфармацыі, і рамантычныя вобразы, якія можа нараджаць знаёмства са старажытнасцю?

Нашы мастакі, свет для якіх апошнім часам уяўляецца не такім ужо вялікім, неаднаразова звярталіся ў творчасці да ўражанняў ад сваіх падарожжаў. Гэта як неабходныя заўвагі на палях біяграфіі, справаздача для сябе і іншых. Прага падарожжаў не абмінула Віктара Альшэўскага, але форму ён прапанаваў іншую — дыялог з сабою і гледачамі. Здаецца, гартаеш старыя лісты, якія выпадкова сабраліся праз стагоддзі ў адным месцы. Няспешна ідзе чарга падзей і з лёгкасцю пераскокваеш са старажытнага Егіпта ў антычны Рым, з Галапагоскіх астравоў да ценяў чорнай дамы Нясвіжа...

Віктар Альшэўскі ў беларускім мастацтве — постаць прыкметная не толькі сваімі славутымі вусамі. Але і сваёй адкрытасцю для гледачоў, журналістаў, паплечнікаў. Сваёй вялікай працаздольнасцю, сабранасцю і ў творчасці, і проста ў жыцці. Сябры кажуць, што Віктар проста не здольны спазняцца, калі дамаўляецца на сустрэчу — якая зусім не характэрная для творчай натуры рыса. Яго творы заўжды адрознівала манументальнасць памераў халста, яркая дэкаратыўнасць (як вынік гадоў навучання на манументальным аддзяленні БелАМ у Г.Вашчанкі). Змест, літаратурна-мастацкія абагульненні маюць у яго творчасці значнае месца. Ён не размяньваецца на дробязі, прыхільны да выразных, сакавітых фігур і сімвалічных дэталяў. Такія карціны лёгка знаходзяць месца на прасторы вялікай сцяны, ствараючы колеравыя і канцэптуальныя кропкі экспазіцыі. Таму творы Віктара Альшэўскага (пераважна тэматычныя карціны і партрэты) хутка прыйшліся да душы і сталі папулярнымі ў асяроддзі мінскай "грашовай" эліты. Ёсць свае прыхільнікі і ў мастака і за мяжою. Віктару Альшэўскаму, праваздейнаму сябру і акадэміку недзяржаўнай Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва, давялося шмат падарожнічаць. Стыпендыят Міністэрства адукацыі Нарвегіі на творчую камандзіроўку ў Крысціянсадзе, дацэнт мастацкай летняй міжнароднай акадэміі выяўленчага мастацтва ў Германіі, удзельнік міжнароднага пленэру ў Італіі... Адчувальна ўразіў яго Егіпет, і не столькі помнікамі даўніны, больш сістэмай старажытных сімвалаў жыцця, містычнасць якіх абуджае зацікаўленасць кожнай сапраўды творчай асобы.

Як злучыць — у адзінае старажытнасць і сучаснасць, каб не разарваць повязь часу, не сысці да апісальніцтва і не заглыбіцца ў філасофскія развагі? Для Альшэўскага праблемы руху ў часе, стварэнне на гэтай падставе пэўнай эстэтычнай структуры даўно стала элементам творчасці. Яму і раней дапамагалі ў гэтым вобразы агромністых птушак, бясконцых у далечыні шляхоў, вялізных марскіх ракавін. У апошнім цыкле "Лісты часу" гэты самы час аўтар канкрэтызуе праз цыферблат, маятнік гадзінніка на падлозе, ледзь прыкметныя, але значныя для разумення канцэпцыі міжчасавыя лініі, лесвіцы, кветкі і, натуральна, канверты з укладзенымі ў іх лістамі. Жывапісны цыкл створаны па матывах падарожжаў апошніх двух гадоў у Італію, Францыю, Егіпет і па Беларусі. В.Альшэўскі шмат эксперыментуе, і найперш з формамі, рамамі, спосабамі мантажу палотнаў (напрыклад, трыпціх з аднайменнай выставе назвай мае наверсе

# Светлагорскія краявіды

Усяго дзесяць дзён "пазіравалі" светлагорскія краявіды вядомым беларускім мастакам, але гэтага аказалася дастаткова, каб неўзабаве ў мясцовай карціннай галерэі адкрылася выстава з 28 твораў. І якіх! Зрэшты, варта назваць некалькі прозвішчаў, каб стала зразумела, што інакш і быць не магло. У пленэры, наладжаным гарвыканкамам, Гомельскай абласной арганізацыяй Беларускага саюза мастакоў і Беларускай акадэміяй мастацтваў, прымалі ўдзел лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Анатоль Бараноўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў, прафесар кафедры графікі Беларускай акадэміі мастацтваў Уладзімір Савіч, загадчык кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва гэтай жа акадэміі Уладзімір Зінкевіч, загадчык кафедры малюнка, дацэнт Беларускай акадэміі мастацтваў Віктар Нямцоў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Казакевіч, заслужаны дзеяч мастацтваў Дзмітрый Алейнік... Зрэшты, варта назваць і іншыя прозвішчы: Уладзімір Васюк, Валянціна Сідарава, Святлана Курашова, Анатоль Отчык, Роберт Ландарскі, Пётр Захараў, Леанід Гоманаў. Пагадзіцеся, што кожны з гэтых мастакоў даўно таленавіта сцвердзіў сябе.

Зрэшты, з майстэрствам, з адметнасцямі талентаў удзельнікаў пленэру светлагорцы мелі цудоўную магчымасць пазнаёміцца загадзя. Магчыма, парушаючы нейкія пленэрныя традыцыі, яны наладзілі ў мясцовай карціннай галерэі не адну, а дзве выставы. Першая з іх адкрылася ў дзень прыезду мастакоў у Светлагорск, а другая — у час святкавання 40-годдзя горада. Дарэчы, творы азнаямляльнай выставы і зараз не пакінулі Светлагорск. Яны экспануюцца ў рэспубліканскім санаторыі "Сярэбраныя крыніцы", дзе, між іншым, на працягу дзесяці пленэрных дзён жылі мастакі. Справа ў тым, што менавіта тут у некалькіх удала падбараных пакоях, знаходзіцца цяпер філіял Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава.

Але найбольш урачыста адкрылася выніковая выстава. Многія прыхільнікі



выяўленчага мастацтва пажадалі пераканацца ў тым, як вядомыя мастакі здолелі ўвасобіць менавіта светлагорскія краявіды. І яны не былі расчараваны. Нават без удакладняльных назваў твору, перш за ўсё, радавалі сваёй пазнавальнасцю. Зноў і зноў узнікала даўняя думка аб тым, што сапраўдны мастак піша не толькі тое, што бачыць і адчувае, але і самога сябе. Уладзімір Зінкевіч нібыта спыніў на імгненне імклівасць надыходзячага вечара, калі святло яшчэ не перастала быць святлом, а змрок не паспеў стаць змрокам. Здаецца, варта крыху пачакаць, гледзячы на гэтую жывую сваімі адцен-

# Пасажыр з Капенгагена

АПОВЕД-БЫЛЬ

Леанід ЛЕВАНОВІЧ



I

Мы стаялі ў чарзе на рэгістрацыю ў аэрапорце Бостана на рэйс да Парыжа. У Амерыцы і чэргі не такія, як у нас. І час у іх свой: далей дванаццаці яны лічыць не любяць. Але ў міжнародных стасунках мусяць. На вялізнай дошцы крэйдай быў напісаны нумар нашага рэйса і час вылету — 17.35, ніжэй у дужках — 5.35.

Мы, гэта я і мае праважатыя дачка і зяць, — прамінулі дошку ў агульнай чарзе. Наперадзе была свабодная нейтральная паласа, якая аддзяляла ад чаргі стойкі рэгістрацыі. Іх было чатыры: тры звычайныя для эканомік-рэйсаў і чацвёртая для бізнесоўцаў. Да гэтай стойкі зрэдку падыходзілі мужчыны з шыкоўнымі кейсамі і жанчыны з лёгкімі сумачкамі. Мадам за стойкай чароўна ўсміхалася, хутка выконвала неабходныя фармальнасці.

Усе астатнія пасажыры-эканамісты чакалі, які чыноўнік за стойкай вызваліцца, да яго і перлі з чамаданамі і валізкамі. Я прыкінуў, якая стойка будзе маёй, і тут пачуў знаёмае пілікание: такія гукі выдаваў сотавы тэлефон у зяцевай кішэні. Зяць дастаў "мабільнік" і тут жа перадаў яго мне: "Гэта вас..." У трубцы пачуўся далёкі ўстрывожаны жончын голас:

— Толькі што пазванілі з Літоўскіх авіяліній. Сказалі, што ў Вільнюсе заўтра табе давядзецца чакаць сем ці восем гадзін. Аўтобус павінен забраць усіх пасажыраў. А калі ж цябе сустракаць?

— Пазваню з Вільнюса. Там будзе відаць...

Калі браў білеты, ветліва запэўнівалі: "Будзеце вяртацца... Як іншых пасажыраў не будзе, то паедзеце адразу. Аўтобус будзе стаяць і чакаць вас..." Абяцанкі-цацанкі. А цяпер сем-восем гадзін... За гэты час "Боінг" пералятае Атлантычны акіян.

І вось мы ўжо каля стойкі. Маладая кабета ў белай форменцы ніяк не магла даўмецца: чаму я з Мінска лячу праз Вільнюс, куды накіраваць багаж? На якім самалёце ён будзе ляцець ад Вільнюса?

Урэшце непаразуменне вырашылася, і я апынуўся ў самалёце, вялізным, як гумно, "Боінгу". У сем дзесяць раніцы па мясцовым часе я быў у Парыжы. Там ішоў дождж, хоць на двары стаяў снежань.

II

Дажджлівы, туманны дзень нібы шэрай коўдрай зацягнуў і літоўскую сталіцу — колішні культурны цэнтр беларускай зямлі. Прыляцеў я туды без спазнення — у 14.30. Прыбавіў восем гадзін, атрымалася, што а палове адзінаццатай выедзем з Вільнюса, у дзве гадзіны ночы дома. Усё добра. Але дзе шукаць той белы "Форд", які вёз мяне сюды?

Пасажыраў у аэрапорце было мала. У першай, прахадной зале ўвогуле нікога. Падкаціў цялежку з чамаданамі бліжэй да вакенца дзяжурнага, растлумачыў сітуацыю, ён згадзіўся папільнаваць. Насупраць аэрапорта стаяла шмат машын, але знаёмага "форда" не знайшоў. Пераехаў з цялежкай у невялікую залу чакання, дзе, апрача мяне, нікога не было. Чытаў, драмаў, час ішоў вельмі марудна. Людзі заходзілі, але гэта былі пасажыры мясцовых ліній, пасядзеўшы якую гадзіну, яны знікалі.

На двары сцямнела. Каля сямі гадзін вечара да мяне падышоў хударлявы цёмнавокі мужчына з тонкімі вусікамі:

— Вам да Мінска? Здаецца, я вёз вас сюды, — і назваў маё прозвішча.

— Слава Богу. Я вас паўдня шукаю.

— Аўтобус даўно стаіць тут. Хіба вам не сказалі?! Сёння чырвоны "форд", а не белы. Той у рамонце. Давайце вашы рэчы...

Загрузілі чамаданы ў аўтобус, я ўздыхнуў вальней, мог пахадзіць па вуліцы. Літаў я не меў, ды і даляраў кот наплакаў. Цяпер была праблема: угаварыць шафёра, каб давёз дадому, канешне, за плату. Згадзіўся. Патэлефанаваў жонцы: сустракаць не трэба.

Цяпер я з палёгкай хадзіў па вакзале і суцяшаў сябе: пяць гадзін прайшло. Засталося тры, ну, хай чатыры, усё роўна меней. Чакаць трэ было самалёта з Капенгагена, які прылятае ў 22.35. Цяпер усё было ясна. Але неба не мела такой яснасці, рэйс маглі адкласці, затрымаць.

Пашкадаваў, што не было з сабою тэлефона колішніх літоўскіх знаёмых. Некалі ведаў шмат калег-пісьменнікаў, але за апошні дзесятак гадоў ні з кім з іх не сустракаўся. Перад ад'ездам у Амерыку спрабавалі дазваніцца да Пятраса Бражэнаса, з якім некалі хораша гаманілі ў Доме творчасці "Іслач", але нумар памяняўся, новага не знайшоў.

Падышоў высокі кучаравы хлопец:

— Мне сказалі, што вы да Мінска. Я таксама.

Разгаварыліся. Хлопец скончыў аспірантуру аднаго мінскага інстытута і зараз стажыруецца ва універсітэце Марселя. Родам з Мінска, і бацькі карэнныя мінчукі. Але меў ён ужо і ў паводзінах, і ў манеры гаварыць нейкі своеасаблівы шарм. Прызнаўся, што па-французску гаворыць свабодна.

— Значыць, вы ўжо цяпер — Серж?

— Новыя сябры клічуць гэтак.

— Ну, а французскія жанчыны... Падабаюцца?

— Як вам сказаць? Сучасныя французжанкі занадта худыя і плоскія. Ніякай сексуальнасці. Мінчанкі прыгажэй.

Пярэчыць я не стаў, хоць Парыж бачыў адно з вышыні птушынага палёту, ды нагледзеўся на абслугу аэрапорта імя Шарля дэ Голя — спрэс цёмнаскурыя дзяўчаты, сярод іх былі і сімпатычныя. А што мінчанкі прыгажэй, я ахвотна пагадзіўся, бо насамрэч у нашай сталіцы багата прыгожых дзяўчат — аж вочы разбягаюцца.

Па зале туд-сюд пахаджвала зграбная русявая кабета, зрэдчас пазірала на нас.

— Гэта мінчанка таксама. З Франкфурта-на-Майне прыляцела. Да мужа ездзіла.

Серж адышоўся ад мяне, а я пакіраваў да пасажыркі з Нямеччыны. Яна чытала невялікі томік — то былі вершы Марыны Цвятаевай. Натуральна, размова наша пачалася з паэзіі. Марына скончыла філфак Беларускага універсітэта, спачатку выкладала беларускую мову і літаратуру, а потым урокі роднай мовы пачалі скарачаць, і ёй давялося выкладаць рускую мову. Гэты томік Цвятаевай вазіла ў Нямеччыну.

— Некалі я не ўспрымала яе. А цяпер люблю. Надзвычай тонкая і глыбокая паэтка.

— А з беларускіх каго вы любіце?

— У студэнцкія гады падабаліся многія. А цяпер люблю толькі Жэню Янішчыц. Астатнія — "охи да вздохи"...

— Ну, не скажыце, — не пагадзіўся я.

Назваў некалькі прозвішчаў, але Марыя нічога пра іх не магла сказаць. Вывад напрошваўся сам сабою: яна даўно не чытала гэтых паэтак.

Пра Нямеччыну гаварыла з ахвотаю. Калі дазналася, што мой зяць — класны праграміст, кандыдат навук, зазначыла:

— У Нямеччыне вельмі шануюць праграмістаў. Калі ў вашага зяця ў Штатах ёсць праблемы... Ці яму захочацца бліжэй да радзімы. Магу даць адрас фірмы, дзе працуе мой муж. Ім патрэбны праграмісты. Толькі з мовай могуць быць складанасці. Немцы разумеюць ангельскую, але не любяць. Сваёй трымаюцца.

— Не тое, што мы, беларусы.

— Гэта каменьчык і ў мой агарод? — усміхнулася Марыя.

Гасцявала яна ў мужа два месяцы: брала адпачынак за свой кошт. На Новы год ён абяцае прыляцець на два тыдні — засумаваў па сыне. Сын вучыцца ў трэцім класе, кожны дзень чакае бацьку.

За размовамі, потым за разгадваннем крыжаванкі час паляцеў хутчэй. Цяпер ужо і вадзіцель аціраўся каля нас. Мы ўжо былі як адзін калектыў.

— Ну, чаго мы марнуемся? Гэты чалавек можа не прыляцець з Капенгагена. Можа, ён перадумаў? Фірма не адпусціла, — пачаў Сяргей.

— Можа, на рэйс спазніўся, — падліла масла ў агонь Марыя.

— Можа — надвое варожа. Мне загадана ўсіх забраць. Учора жонка ягоная званіла, каб не забыліся... Пасажыр Ганчарук з Капенгагена. Мяне ж вытураць з работы, калі ён прыляціць, а тут ніхто не чакае. Што вы, братцы? — пераконваў нас вадзіцель.

III

Між тым пачалася адзінаццатая гадзіна вечара. І тут нібы гром з яснага неба — голас з рэпрадуктара: рэйс з Капенгагена спазняецца на сорак хвілін.

— Што я казаў! — падхапіўся Сяргей. — Мы будзем чакаць да поўначы. А ён не прыляціць. Паехалі! Пераначуе ў гасцініцы. Пэўна ж, не бядак пахілы... Пайду разведаю, ці ёсць месцы...

— Можаце не хадзіць. Пакуль самалёт з Капенгагена не прыляціць, нікуды я не паеду. Лепей пасядзець у аўтобусе, — вадзіцель крутнуўся на вуліцу.

Праз нейкі час за ім пацягнуўся і Сяргей. Марыя зноў дастала томік Цвятаевай, а я зноў пачаў мерацць крокамі залу чакання.

Неўзабаве на двары ўсчаўся дождж, прынёс яго вецер з Парыжа. Сабраліся мы ўсе ў аўтобусе, бо зала чакання ўжо абрыдла.

Вадзіцель уключыў матор, каб трохі было цяплей. Сцішана іграла радыё. Але час у аўтобусе цягнуўся яшчэ марудней. Мы пазіралі на гадзіннікі, часцей за ўсіх гэта рабіў вадзіцель. Стрэлкі нібы застылі на цыферблаце. Марыя і Сяргей прыляцелі пазней за мяне гадзіны на тры, а маё чаканне пераваліла на дзевятую гадзіну.

Нарэшце вадзіцель выключыў матор і цераз лужыны пасігаў у аэравакзал. Яго не было з паўгадзіны, а магчыма, і болей.

— Ну што я гаварыў?! Казёл! Каб не Марыя, я б такога мацюка загнуў. Ганчарук застаўся ў Капенгагене. А гэты... вядзе нейкую шалаву. Баксы зарабляе. Ніколі не лятаў Літоўскімі авіялініямі. І болей не палячу! — гарачыўся Сяргей.

— Добры вечар! Ці ўжо добрай ночы! — весела павіталася незнаёмка.

— Для каго добры, а для каго не вельмі, — буркнуў Сяргей. — Казаў жа я вам. Ніякі Ганчарук не прыляціць. Даўно б ужо былі ў Мінску. А вы: жонка званіла, прасіла...

— Малады чалавек, Ганчарук — гэта я. Дзякуй, што дачакаліся. Дык што, жонка майго мужа званіла? Цікава! Зрэшты, я паўгода не была дома. За такі час можна знайсці не адну новую жонку... Толькі што гаварыла з ім па тэлефоне. Сказаў: сустрэне на вакзале. Пра жонку ні слова. Цырк на дроце! — з яшчэ большай весялосцю ў голасе прамовіла Ганчарук.

— Так ён адразу і расколецца. Скажа ў свой час... Шэф, прашу прабачэння, — павярнуўся Сяргей да вадзіцеля. — не крыўдуй, калі ласка.

Той моўчкі кіўнуў, углядаючыся ў цёмнае сяйво за шклом аўтобуса.

— Аказваецца, вы можаце быць ветлівым! А што ж вы мяне пужаеце? Не пужайце страуса. Падлога металічная...

Усе зарагаталі. Гучней за ўсіх Сяргей:

— Ну, мадам Ганчарук! З вамі не засумуеш.

— Калі па свеце бадзяцца без гумару, можна хутка звіхнуцца. Прабачце, людцы добрыя, але мне трэба за кусцікі. Спыніцеся, калі ласка, дзе ёсць кусты...

— Ну во, у Вільні чакалі. Цяпер на дарозе будзем чакаць. Цярпіце да Мінска, — блазнаваў Сяргей.

— Вы што? Мачавы пухір лопне... Будзе тое, што з малпачкай, якая задумала пацешыцца са сланом, — жартавала Ганчарук.

— Я ляцела бізнесрэйсам. Мужыкі сядзелі побач. І кожнаму карцела выпіць за маё здароўе. Ці ж я вінаватая?..

Вадзіцель мусіў спыніцца. Пасажырка схавалася ў туманнай цемры. Між тым у аўтобусе ўсчалася ажыўленая гамана. Падала голас і Марыя:

— Вясёлая ў нас спадарожніца, — прамовіла з прыхаванай зайздрасцю.

— А вы дакаралі мяне, — павесялеў і вадзіцель. — Каб не дачакаліся, яна б такі вэрхал узняла! Усю б Вільню пабудзіла. Я вылецеў бы з работы, як пробка з шампанскага...

Неўзабаве пасыжарка з'явілася, паехалі далей. Села яна побач са мной. У паўзмроку цяжка было разглядзець ейны твар, але па ўсім відно, што яна яшчэ вельмі маладая. Кароткія густыя валасы атулялі энергічны, трохі выцягнуты наперад твар. Росту яна была сярэдняга, моцнага целаскладу. Вясёлы характар, маладосць, фізічнае здароўе дазвалялі ёй калясіць па свеце. Маўчаць і драмаць пасажырка не збіралася:

— Ну што, будзем знаёміцца? Мяне завуць Віка. Прозвішча ведаеце. Адкуль прыляцела — таксама. Нават ведаеце, што ў майго мужа новая жонка... А я — нічога не знаю. Вы адкуль і куды? — павярнулася да мяне. — Спярша, калі не сакрэт, як вас завуць?

— Дзядзька Лявон. Вяртаюся з Амерыкі. З Бостана.

— Окей! Была ў Бостане. Гэта адзіны горад у Штатах, які мне спадабаўся. Культурны, зялёны, прыгожы. Астатнія — каменныя джунглі. Вялікія дзярэўні з каменных карабкоў. А вы, малады чалавек? Дарэчы, аказваецца, вы ўмееце быць ветлівым!

— Мерсі, мадам, за камплімент. Толькі з Парыжа. А калі дакладней — з Марселя. Вучуся там у іхняй аспірантуры.

— Выдатна! Прабачце, мая калега па прыналежнасці да жаночага племені не спіць?

— Дзе тут заснеш? Што з вамі, што з чужым мужам... Які можа быць сон!

— Ну, Марыя! І ў вас гумар прарэзаўся! — гучна зарагатаў Сяргей. — А ў Вільні была такая змрочная.

Марыя коратка расказала пра сябе.

— Пазнаёміліся. Можна пераходзіць да анекдотаў. Жарты розных краін і народаў, — нібы дырыжор, вяла рэй Віка. — З каго пачнём? Як там французы наконт гумару?

— Французы? Сіль вупле, — ахвотна падтрымаў прапанову Сяргей, нібы даўно чакаў такога павароту. — Значыць, ён і яна ў спальні. Зазваніў тэлефон. Яна выйшла, пагаварыла. — Сюзанна, хто званіў? — Ды гэта мой муж. Сказаў, што прыйдзе позна. З табой у шахматы гуляе...

Усе дружна засмяяліся, а гучней за ўсіх — сам апавядальнік.

— Ну, а Штаты любяць жарты? — вялікія цёмныя вочы капенгагенскай пасажыркі пазіралі на мяне.

— Амерыканца без усмешкі ўявіць немагчыма. Значыць, сядзяць два гангстэры. Здаравенныя бамбізы. Адзін уздыхнуў і кажа: — Ведаеш, Біл, ёсць у мяне блакітная мара. Абрабаваць банк і пакінуць там адбіткі пальцаў маёй цешчы...

Мабыць, гэты замежны мікрааўтобус ніколі не чуў такога магутнага рогату. Смяяўся і вадзіцель, пільна ўглядаючыся ў цёмную стужку шашы, якую вырывалі з цемры снапы святла.

— А як там немцы? Нябось, пасля кухля піва травяць анекдоты, — не сунімалася Віка.

— Піва з немцамі не піла. А жарт такі. Ангельскі, але расказалі мне яго ў Нямеччыне. Гатэль у Лондане. Ноч. Надвор'е — горш чым сёння. Халадэча, мокры снег. Стук у дзверы: — Містар, я ваша суседка. Замярзаю. Ніяк не магу сагрэцца. Памажыце... — Ну, вазьміце маю коўдру... Праз нейкі час зноў грукае: — Містэр, мне зрабілася яшчэ халадней. Памажыце сагрэцца... — Ну, як я памагу? Вось маё паліто... Неўзабаве зноў стук: — Містэр, я ўся заледзянела... Мая мама ў такое надвор'е сагравала мяне сваім целам... — Мілая мая, не пайду ж я гэткаю халадрыгаю шукаць вашу маць...

І зноў рогат ускалыхнуў чырвоны "форт-эскпрэс".

— Што ж, мая чарга, — азваўся вадзіцель. — Мой жарт вельмі кароткі і дыетычны. Я на службе. Дарэчы, таксама ангельскі. Лорд кажа свайму лёкаю: — Джон, у мяне сёння рабочы настрой. Я сам аблуплю сабе варанае яйка... — і, перакрываючы рогат, дадаў: — А цяпер перадайце мне пашпарты. Дзяржаўная мяжа, мытня скора...

IV

Мытню, дзе стаяла даўжэзная чарга груваcткіх фураў, легкавікоў наш аўтобус праскочыў, як разагрэты нож праз масла. Потым вадзіцель з пашпартамі пакіраваў у яркаасветленую будыніну. Неўзабаве вярнуўся, сказаў, што трэба ўсім выйсці — паказацца пагранічніку. Вусаты прапаршчык заспанымі, стомленымі вачамі лыпаў на фота ў пашпарце, потым праз акенца на фізію кожнага з нас.

Едзем далей. Марыя болей не адгукалася, мабыць, змарыў сон. Ды і Сяргей маўчаў, усё ніжэй хілілася ягоная кучаравая галава. Гутарылі мы ўдваіх. Вікторыі хацелася гаварыць, а мне было цікава слухаць, як мог падахвочваў, задаваў пытанні. Трохі сказаў пра сябе. Давялося прызнацца, што тое-сёе пішу, выходзілі кнігі.

— Сайт маеце ў Інтэрнэце? — Віка пазірала на мяне і падалося, што яе вочы свецяць нейкім сіняватым бляскам.

— Які там сайт? У мяне і камп'ютэра няма. Друкую на старэнькай машынцы. Прывык. Яна — нібы працяг маіх рук.

— Камп'ютэр куды лепшы працяг. Які пісьменнік без сайта ў Інтэрнэце? Гэта як прафесійны вадзіцель без аўто. І не позна заняцца камп'ютэрам. Авалодаць ім няцяжка...

Віка пачала горача і настойліва пераконваць, якія магчымасці адкрывае Інтэрнэт, яна гатова навучыць мяне працаваць на камп'ютэры за тры дні. Я не пярэчыў. Але на гэты раз мяне болей цікавілі яе ўражанні, назіранні, думкі пра тых жа галандцаў, амерыканцаў, бо аблётала Віка за сем гадоў, якія працуе ў фірме менеджэрам, увесь свет. Фірма гэтая некалі грымела і на Беларусі. Цяпер яе справы на радзіме ідуць так сабе, а за мяжой даволі паспяхова.

— Што вам сказаць пра галандцаў? Сытыя, задаволеныя. Апрача свайго карыта, іх нічога не цікавіць. Спытайце, дзе ёсць горад Мінск, ніхто вам не адкажа. А ў нас кожны сямікласнік ведае, дзе Амстэрдам, Гаага ці Брусель.

— Ну, а як вам Амерыка?

— Амерыка канчаткова зажралася. І яна пакоціцца ўніз. Працаваць ім самім не хочацца. Каб нехта іншы сядзеў за камп'ютэрам. Усё для іх рабіў. Укалываў ля станка, усміхаўся ў супермаркеце. А яны б адпачывалі, падарожнічалі. Грэлі пуза на акіянскіх пляжах.

*(Заканчэнне на стар. 14 — 15)*





## *“Кантакты і дыялогі”, №7-8*

**Пабачыў свет здвоены (7-8) нумар інфармацыйна-аналітычнага і культуралагічнага бюлетэня “Кантакты і дыялогі”, на гэты раз прысвечанага беларуска-польскім культурным дачыненням.**

**У раздзеле “Артыкулы, даследаванні” змешчана літаратуразнаўчае даследаванне прафесара кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, аўтара шматлікіх прац па гісторыі беларускай літаратуры і фальклору Аляксандра Баршчэўскага (знаны як паэт пад псеўданімам Алесь Барскі) “Паэзія Яна Неслухоўскага ў канктэксце польскага пазітывізму”, у аснову якога пакладзены даклад на канферэнцыі, прысвечанай 150-годдзю з дня нараджэння Янкі Лучыны (Мінск, чэрвень 2001 г.).**

**Аспірант кафедры славянскіх літаратур Белдзяржуніверсітэта Пятро Рагойша, вядомы сваімі даследаваннямі гісторыі Ракава, прапануе артыкул пра творчасць ураджэнца Ляхавіч, вядомага польскага празаіка Сяргея Пясецкага, які сваімі каранямі найбольш моцна звязаны з беларускім кантэкстам. Сёлета адзначаецца 100-годдзе з дня нараджэння С.Пясецкага.**

**Аўтар многіх прац пра беларуска-польскія ўзаемадачыненні, габілітаваны доктар з Люблінскага універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай Рышард Радзік сваім артыкулам “Польска-беларуская міжкультурная камунікацыя: папярэдняе выкладанне праблематыкі” спрабуе распачаць на старонках бюлетэня дыскусію напярэдадні Міжнароднай навуковай канферэнцыі па гэтых пытаннях, якая мае адбыцца ў Любліне ў 2002 г.**

**У артыкуле “Сістэма навучання “алімпійцаў” у агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім” выкладчыца кафедры гісторыі выхавання і педагагічнай думкі Універсітэта ў Беластоку Эва Рамаioўска падае кароткую гісторыю гэтай вядомай навучальнай установы і яе сённяшнія праблемы.**

**Каб знайсці выйсце з нялёгкага фінансава-арганізацыйнага становішча, у якім у апошні час знаходзяцца “Кантакты і дыялогі”, рэдакцыя вырашыла пашырыць кола сваіх заснавальнікаў. Цяпер у іх склад па-ранейшаму ўваходзяць Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, а зараз яшчэ і Беларускі ПЭН-цэнтр. Рашэнне пра гэта было прынята рэдкалегіяй “Кантактаў і дыялогаў” у канцы ліпеня.**

**Адпаведную ўхвалу прыняла і рада Беларускага ПЭН-цэнтра, якая вылучыла ў склад рэдкалегіі бюлетэня кандыдата філалагічных навук перакладчыка Лявона Баршчэўскага і доктара філалагічных навук літаратуразнаўцу Міхася Тычыну.**

**Адпаведна з гэтым рашэннем у гэтым нумары з’явілася і новая рубрыка “У Беларускім ПЭН-цэнтры”, дзе ў нататцы “Год Быкава” паведамляецца, што Польскі ПЭН-цэнтр мае намер сёлета вылучыць народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, прэзідэнта Беларускага ПЭН-цэнтра, на атрыманне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры.**

**Пад заўсёднай рубрыкай “Беларусы і ўраджэнцы Беларусі за мяжой” падаюцца біяграфіі князя, грамадскага дзеяча, міністра фінансаў Каралеўства Польскага Францішка Друцкага-Любецкага (1778—1848), беларускага і польскага пісьменніка Васіля Петручука, журналісткі беластоцкай “Нівы” Ады Чачугі.**

**У нумары рэцэнзуецца і анатуецца шмат кніг і выданняў, прысвечаных пытанням беларуска-польскіх дачыненняў.**

**У будучым рэдкалегія “Кантактаў і дыялогаў” мае намер ператварыць свой бюлетэнь у часопіс аб’ёмам 120 старонак. Прытым характар выдання прынцыпова не зменіцца. Бліжэйшыя ягоныя нумары маюць быць прысвечаны беларуска-літоўскаму, беларуска-расійскаму, беларуска-бельгійскаму грамадска-культурнаму ўзаемадзеянню, а таксама праблемам перакладу. У рэдакцыйным партфелі ёсць артыкулы беларусістаў з многіх краін свету.**

**АГА**

ЗНАХОДКІ

# ...І памёр, і ўваскрос

Гэтая знаходка мае дваццацігадовую гісторыю.

На працягу амаль чатырох стагоддзяў невялікай кніжцы давялося перажыць войны, пажары, падзелы, заняпады і росквіты дзяржаў, новыя войны і новыя падзелы... Невядома, калі і чыя рука апошні раз перагортвала яе старонкі. І калі б не шчаслівы выпадак, то і сама кніга, і імя яе аўтара засталіся б дарагой пярлінай у шчыльна закрытай ракавіне гісторыі.

Напрыканцы 1979 года, падчас вучобы ў аспірантуры пры Пушкінскім Доме (Інстытут рускай літаратуры АН ССР), у Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына я знайшоў даволі цікавую кнігу па сваёй назве, і па сваёй тэме — “Сняданак віленскім брацкім схізматыкам... аднаго брата брацтва Св. Троіцы рускага набажэнства”. Выдадзена гэтая кніга ў 1630 г. у друкарні віленскага Святатроіцкага брацтва і налічвае 32 старонкі. Знаходка унікальная, паколькі ні ў адной спецыяльнай працы па гісторыі літаратуры, гісторыі уніі гэты твор не сустракаўся і дагэтуль не ўведзены ў навуковы ўжытак. На той час я толькі выпісаў асобныя пасажы, што датычыліся Мялеція Смятрыцкага, па творчасці якога я пісаў кандыдацкую дысертацыю, і надоўга гэтая кніга знікла з майго поля зроку. Асобныя выпіскі рабіліся мною і ў 1985, і ў 1999 гадах.

Толькі цяпер, калі я звярнуўся да грунтоўнага даследавання праваслаўна-уніяцкай літаратуры 30-х гадоў XVII ст., змест гэтай кнігі праліў святло на многія складаныя калізіі супярэчлівага перыяду айчыннай гісторыі.

Першае, што заўсёды паўстае перад даследчыкам у падобным выпадку, гэта ўстанаўленне дакладнай даты і месца выдання помніка, яго адрасата і адрасанта. З датай і месцам выдання праблем не было, паколькі дата ўказана на тытульным лісце, а месца выдання твораў віленскага Святадухаўскага брацтва — Вільня. Больш складана з аўтарствам. Як пры Святадухаўскім праваслаўным, так і пры Святатроіцкім уніяцкім брацтве да канца 20-х гадоў XVII ст. склаліся дзве адметныя літаратурныя школы. Да стварэння апошняй нямала сіл і арганізатарскіх здольнасцяў прыклаў тагачасны уніяцкі мітрапаліт, пісьменнік-палеміст, вучоны Іосіф Вельямін Руцкі. З літаратурнага асяроддзя віленскага Святатроіцкага брацтва выйшлі такія вядомыя кнігі, як “Парэгорыя” Іллі Марахоўскага, “Абарона адзінства” Льва Крэўзы, “Двайная віна”, “Экзамен абароны” і інш. Іосіфа Руцкага, “Антыэленхус” Анастасія Сялявы, “Пляц, на якім схізматык не ўтрымаецца...” Фёдара Ліцынія Намыслоўскага і інш. Кожны з названых аўтараў мог спрычыніцца да напісання “Сняданка”.

Са зместу гэтай кнігі відаць, што аўтар падчас працы над ёй пісаў яшчэ адзін даволі аб’ёмны трактат — “Абед схізматыкам” (на жаль, гэты твор мне пакуль не ўдалося знайсці). Але вернемся да пошукаў імя аўтара “Сняданка”. Метад палемікі, стыль падачы матэрыялу вельмі падобны да стылю Іосіфа Вельяміна Руцкага, які, бадай, першы ў беларускай літаратуры звярнуўся да так званага “выкрыцця стылю” праваслаўных твораў Мялеція Смятрыцкага ў пачатку 20-х гадоў XVII стагоддзя. Разам з тым, у прадмове ёсць адна фраза, якая адразу адвяргае аўтарства уніяцкага мітрапаліта. Аўтар “Сняданка” сцвярджае, што ён выдае толькі некаторыя “параграфы” з “дазволу духоўных, менавіта якім гэта і належыць ведаць”. Можна дапусціць, што аўтарам “Сняданка” была свецкая асоба, — гэты факт вядомы, скажам, па творчасці Мялеція Смятрыцкага, калі ён у свецкім стане напісаў ад імя праваслаўнага віленскага Святадухаўскага брацтва такія вядомыя творы, як “Антыграфі”, “Трэнас”, пераклаў на старабеларускую мову “Евангелле вучыцельнае” патрыярха Каліста. Больш таго, аўтара “Сняданка” не хвалююць пытанні дагматычнага характару, прысутнасць якіх — неад’емная частка палемічных трактатаў канца XVI — першай паловы XVII стагоддзя.

Апроч прадмовы, у склад “Сняданка” ўваходзяць яшчэ восем невялікіх, але даволі самастойных раздзелаў, якія носяць хутчэй гісторыка-палітычны, чым рэлігійна-дагматычны характар. Гэтыя абставіны вымусілі мяне шукаць аўтара “Сняданка” сярод пісьменнікаў-палемістаў, якім быў уласцівы дакументальна-хранікальны спосаб палемікі. Мой асабісты архіў, які налічвае дзесяткі асоб, схільных да літаратурнай творчасці ў 30-х гадах XVII стагоддзя, не даў адказ на пытанне пра аўтарства “Сняданка”, Не далі адказу і самыя розныя біябібліяграфічныя даведнікі і энцыклапедыі. Заставалася адно: звярнуцца да палемічных трактатаў, якія былі выдадзены пасля 1630 года.

Асаблівасці літаратурнай палемікі канца XVI—XVII стагоддзяў было тое, што большасць твораў выходзіла ананімна, але кожны з апанентаў-пісьменнікаў не толькі амаль заўсёды ведаў свайго “адверсажа”, але часам у палемічным запале называў і яго імя. Так, ужо сучаснікамі былі расшыфраваны анонімы Мялеція Смятрыцкага, Іосіфа Руцкага, Андрэя Мужылоўскага і іншых. Дык хто ж быў аўтарам “Сняданка”?

На гэтае пытанне даў адказ вядомы ў навуковых колах трактат “Суплемэнтум сінопсіс, або найбольш поўнае тлумачэнне кароткага зводу правоў, прывілеяў, свабод і вольнасцяў і г. д.”, выдадзены Святадухаўскім праваслаўным брацтвам у 1632 годзе. “Суплемэнтум сінопсіс” цікавы сам па сабе, паколькі быў выдадзены пасля смерці караля Жыгімонта III Ваза напярэдадні элекцыйнага сейму, на якім павінен быў быць абраны новы кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV Ваза. У гэтым трактаце Уладзіслаў IV мянуецца каралём Шведскім, абраным царом Маскоўскім, але каралевічам Польскім. З абраннем новага караля праваслаўныя Рэчы Паспалітай звязвалі надзею на вяртанне ім правоў і прывілеяў, дадзеных вялікімі князямі Літоўскімі і каралямі Рэчы Паспалітай да Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года. Тут прыводзяцца самыя розныя дакументы, вытрымкі з канстытуцый, з прыватных лістоў дзяржаўных асоб і... сярод іншых — некаторыя сведчанні пра дзейнасць святатроіцкіх уніятаў. У палемічным запале аўтар ці аўтары “Суплімэнтум сінопсіса” заўважаюць: ”Рускія літары пераліты́я (як кажуць) з любові да рускага пісьменства на польскія, а па-польску яны жадаюць... “Сняданак” Мікуліча, нафаршыраваны і натканы з’едлівымі словамі, ды яшчэ і з абразам найсвяцейшай Панны, выдаць у сваёй друкарні”. На жаль, па аб’ектыўных прычынах сёння цяжка што-небудзь сказаць пра лёс гэтага пісьменніка, але змест помніка, які ён нам пакінуў, сведчыць пра высокую адукаванасць асобы, чыё жыццё было цесна звязана з айчыннай гісторыяй, з пошукамі выхаду з рэлігійна-дзяржаўнага крызісу на Беларусі ў XVII стагоддзі.

Твор Мікуліча быў напісаны адразу пасля Львоўскага сабора, што адбыўся напрыканцы 1629 года. Гэты сабор быў скліканы з ініцыятывы уніяцкага мітрапаліта Іосіфа Руцкага, цяпер ужо уніяцкага архіепіскапа Мялеція Смятрыцкага, падтрыманы каралём Жыгімонтам III Ваза з мэтаю аб’яднання праваслаўных і уніятаў. Як сведчыць апісанне гэтага з’езда, уніяты аднесліся да яго з поўнай сур’ёзнасцю. Апроч названых асоб, туды прыбылі амаль усе уніяцкія ўладыкі: Грыгорый Міхайловіч, Ян Шышка, Леў Крэўза, Ілля Марахоўскі, Ерамія Пачапоўскі. Для праваслаўных гэты сабор, відаць, не меў ніякага прынцыповага значэння — супраць яго напярэдадні выступілі і кіеўская шляхта, і віленскія мяшчане. З найбольш уплывовых асоб з боку праваслаўных на Львоўскі сабор прыбылі князь Юрый Пузына і Валынскі чашнік Лаўрэнцій Дравінскі, якія фактычна нічога не вырашалі ў справе аб’яднання. Адразу ж пасля сабора, які закончыў безвынікова, пачаліся абвінавачванні з абодвух бакоў — і уніяцкага, і праваслаўнага — у нежаданні апанентаў ісці на кампрамісныя рашэнні.

Выданне Мікуліча адлюстроўвае складаную рэлігійна-дзяржаўную сітуацыю ў Віленскай Русі напярэдадні Патопу сярэдзіны XVII стагоддзя. Пісьменнік заклапочаны тым, што грэцкае набажэнства ў дзяржаве дзеліцца на



SNIADANIE
Schyzmatykom bráckim
Wileńskim / ktorzy sie nazywáią ś. Duchá / póki sie wszytkich ich złości y niezbożności Obiad ... Wprzwcza Zgotowáne
Dla
Przestrogi y wiádomości Nábożeństwu Ruskiemu y wszytkim práwowiernym Kátolikom
Przez
Brátá iednego Bráctwá ś. Troyce Nábożeństwá Ruskiego.
Prouerb: 26.
Flagellum equo, & camus asino, & virga in dorso imprudentium
... est poena peccati iustissima, vt amittat vnusquisq; illud, quo bene vti noluit, cum sine vlla difficultate posset, si vellet, id est, vt qui sciens recte non facit, amittat scire, quod rectum sit, & qui rectum facere cum possit noluit, amittat posse, cum velit.
Augustinus lib: 3. de lib: Arbit:
Roku Pańskiego M. DC. XXX.

тры часткі. Першую складаюць вернікі віленскага праваслаўнага брацтва пры Святадухаўскім манастыры, другую — кіеўска-рускае праваслаўе, якое, як і праваслаўная Віленская Русь, падпарадкоўваецца Канстанцінопальскаму патрыярху; трэцюю — уніяты “тыя, якія набажэнства і ўсе абрады грэцкія ні ў чым не адменныя ў рускіх краях захоўваюць, аднак знаходзяцца ў адзінстве з касцёлам Рымскім”. Мікуліч лічыць, што падобная сітуацыя з Грэцкім веравызнаннем на Русі можа прывесці да яго поўнага знікнення, а ў плане палітычным — да грамадзянскага супрацьстаяння ў дзяржаве.

Асаблівую ўвагу пісьменнік звяртае на прававыя ўзаемаадносіны уніяцкага брацтва пры Святатроіцкім манастыры і праваслаўнага пры Святадухаўскім. Мікуліч нагадвае, што віленскае Святатроіцкае брацтва было заснавана пры праваслаўным мітрапаліце Анісіфоры Дзевачцы ў 1584 годзе, а ў 1589 годзе каралём Жыгімонтам III Ваза былі пацверджаны ўсе яго прывілеі. Пасля прыняцця уніі мітрапалітам Міхаілам Рагозам усе прывілеі, дадзеныя віленскаму праваслаўнаму брацтву пры Святатроіцкім манастыры, на думку Мікуліча, перайшлі да уніятаў, а вось праваслаўнае брацтва пры Святадухаўскім манастыры — незаконнае ўтварэнне, таму не можа мець ніякага дзяржаўнага статуса і прывілеяў. Найбольшым злачынствам віленскага праваслаўнага брацтва супраць дзяржавы і караля Мікуліч лічыць выданне самых розных “ерэтычных” кніг. Сярод іх ён вылучае “Антыграфі”, “Трэнас”, “Абарону невінаватасці”, “Эленхус”, “Казанне на пахаванне Лявонція Карповіча” Мялеція Смятрыцкага (праўда, імя аўтара пры гэтым не ўказваецца).

Мікуліч зрабіў даволі шырокую выбарку з неэтыкетнай абразлівай лексікі, якую ўжывалі ў сваіх творах праваслаўныя пісьменнікі-палемісты віленскага Святадухаўскага брацтва. Прывядзём да прыкладу толькі некаторыя з іх: “А найперш тая брацкая сінагога Святы касцёл усяленскі, і саборы Святыя ўсяленскія, а менавіта Фларэнційскі, Канстанцінопальскі і Трыдэнцкі бязбожнымі зборышчамі, сляпымі, разбойнымі называе. Айца святога Пастыра ўсяленскага мянуе Антыпятром, ерэтыком-тыранам, сіманякам-епіскапам, сынам страты, чалавекам граху... Каталіцкае духавенства — фальшывымі прарокамі.., фарысеямі, пякельнаю саранчою, сямігаловай бестыяй, імпастарамі, драпежнымі ваўкамі... І асабліва тых, хто знаходзіцца ў адзінстве, — апастатамі, гермафрадытамі, ні тое ні сёе, ні птах ні звер” і г. д. Аналагічныя пасажы прыводзяцца Мікулічам на некалькіх старонках помніка. Ён указвае, што падобныя пісанні, выдадзеныя віленскім Святадухаўскім брацтвам, прывялі да непаслушэнства прастакоў сваім уніяцкім святарам і, у рэшце

# Пасажыр з Капенгагена

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)

Я разумеў, што Віка занадта катэгарычная і суб’ектыўная, але яе цікава было слухаць.

— А дзе вы яшчэ былі?

— На Тайвані, у Кітаі, у Японіі...

Мілая дзяўчынка, як жа цябе паматала па свеце камерцыя ў твае маладыя гады.

— Ну і што вам кінулася ў вочы?

— Мне здаецца, тайванскі тыгр ужо стаміўся. Ды і японцы пачалі буксаваць. Кітаёзы пакуль што на ўздыме. І яны неўзабаве абставяць усіх. І Штаты — таксама. Немцы ўмеюць працаваць. Метадычна, планамерна, абдумана. Але недахоп рэсурсаў, тэрыторыі не дае ім разгарнуцца. Дарэчы, у Індыі я не была. Разумныя людзі кажуць, што яна набірае разгон. Спяцы-індусы нават пакідаюць Амерыку, вяртаюцца дамоў. Там можна зарабіць болей, чымся за кардонам. І адчуваць сябе чалавекам. Патрыётам зямлі бацькоў. Гэта не гучныя словы. А рэаліі жыцця...

— Ведаеце, дзядзька Лявон, скажу вам шчыра. Стамілася ад гэтага бадзяння... Мне ўжо дваццаць пяць, а сям’і па сутнасці не маю. З мужам бачымся раз ці два на год. Надакучылі гатэлі, самалёты, фуршэты... Бывае, так хочацца самой зварыць бульбы, кінуць у яе кропу. Ды з кефірам... Ці з грыбамі. Якія сама з лесу прынесла, згатавала... Абрыдлі казённыя, фальшывыя ўсмешкі. Часам думаеш, яны і скуру з цябе злупяць з усмешкаю... Надакучыла гонка за клятымі баксамі. Колькі праз іх бяды вакол!.. Хачу дзіця, утульнасці, пяшчоты. Хай муж корміць. Ды тое-сёе і ў мяне ёсць. Хопіць. Не ў баксах шчасце... Пабадзяешся па свеце, дык пачынаеш разумець простыя рэчы. Простыя ісціны. Вось вам прыклад: з мілым рай і ў будане. Проста і геніяльна. У велізарных, шыкоўных асабняках, адмысловых вілах жывуць, бывае, муж і жонка, і люта ненавідзяць адно аднаго.

V

За размовай дарога ад Вільні падалася мне дужа кароткай. І вось ужо мільгануў мінскі ўказальнік. Заварушыўся на-сядзенні Сяргей, падняў кучаравую галаву:

— Шэф, здаецца, Кунцаўшчына? Мне скора выходзіць.

Сяргей ветліва развітаўся з усімі, падзякаваў за кампанію. А ў вадзіцеля зноў папрасіў прабачэння. Усё-ткі Францыя ўсіх і кожнага можа навучыць ветлівасці.

— Дык дзе вас чакае муж? — спытаў вадзіцель Віку.

— Сказаў, на аўтобусным вакзале. На цэнтральным. Сіняя “Мазда”.

— Ноччу ўсе кошкі шэрыя. І машыны — таксама. Што чорная, што сіняя. Чорт іх разбярэ. А тут яшчэ туман. Вось табе і снежань...

Ён тармазнуў ля вакзала, углядаючыся ў туманную шэрань:

рэшт, да забойства уніяцкага архіепіскапа Іясафата Кунцэвіча і да пакутніцкай смерці прапаведніка Антонія Граковіча.

Пісьменнік-палеміст раскрывае сістэму ўзаемаадносін ці, правільней, патранату ў віленскім Святадухаўскім брацтве. Ён лічыць, што праваслаўнае духавенства цалкам залежыць ад волі братчыкаў. Мяшчане-братчыкі самі вяршаць суд над духавенствам, могуць "асвяціць свае рукі ў барадзе святара" ці ўвогуле пазбавіць яго хлеба. Мікуліч падводзіць вынік: "Вы сваімі духоўнымі кіруеце, а не яны вамі, яны тое мусяць рабіць і пісаць, што вы ім загадаеце, тое, што вам магло б спадабацца".

На старонках "Сняданка" Мікуліча мы знаходзім асобныя, вельмі рэдкія факты біяграфіі тагачасных пісьменнікаў. Дазволю сабе прывесці яшчэ адну вельмі важную цытату, якая датычыцца жыццёвых калізій выдатнага пісьменніка-палеміста Мялеція Сматрыцкага, чыё 435-годдзе з дня нараджэння мы будзем адзначаць праз два гады: "Прыпомніце найбліжэйшага да вас Мялеція Сматрыцкага, якога, калі быў з вамі, любілі, шанавалі, за яго не шкадавалі свайго здароўя... за свае грошы вахтаю аберагалі яго і ўдзень, і ўначы, за свой уласны кошт ад галавы ледзь не да ног у золата і перлы ўбралі, на якога і пылінцы ўпасці не дазвалялі, шанавалі яго, як святога, і так тытулавалі, сотнямі ззаду і спераду ведучы яго пад рукі, праводзячы, выказвалі яму пачцівасць, шануючы яго пры жыцці як сапраўднага святога, абразы яго ў сваіх дамах між абразоў розных святых выстаўлялі — ды хто ж поўнасцю можа апісаць тую любоў і шанаванне ваша да яго, калі быў з вамі ў паразуменні?! А цяпер, калі апамятаўся і пакаяўся (перайшоў ва уніяцтва. — **У. К.**), і адступіў ад вашых баламутняў, і праўду шчырую, адганяючы аблуды, публікуе, ...асудзілі яго як праклятага, замест уганаравання — страшная лаянка, зласлоўе і праклёны... Замест змяшчэння абразоў яго паміж святымі выкідваеце іх з дамоў сваіх з ганьбаваннем".

Апошні раздзел "Напамін да схізматычнага вашага брацтва" палемічна завостраны на праблеме духоўнага жыцця Русі і яе народа ў дзяржаве. Гэта глабальная праблема айчыннай гісторыі, генезіс якой — у перманентным вар'іраванні напоўненасці тэрміна "Русь" (у дачыненні да Кіеўскай Русі, Віленскай Русі, Маскоўскай Русі). Да сярэдзіны 30-х гадоў XVII стагоддзя духоўныя інтарэсы праваслаўных Кіеўскай Русі і Віленскай Русі адстойвалі пераважна віленскія русічы. Толькі з пасвячэннем на праваслаўную мітраполію Пятра Магілы гэты цэнтр паступова змясціўся да Кіева. Да гэтага ж часу Віленская Русь адчувала сябе спадкаемніцай духоўных традыцый Кіеўскай Русі. Тут, у Вільні, знаходзілася найбольш уплывовае, здольнае на рашучыя дзеянні праваслаўнае брацтва, дэпутаты якога ў першай трэці XVII стагоддзя найбольш паслядоўна адстойвалі на сеймах інтарэсы праваслаўных народаў Беларусі і Украіны. Вось чаму менавіта віленскія русічы лічылі сябе прадстаўнікамі і абаронцамі ўсёй Русі. Цяпер становіцца зразумелым папрок Мікуліча віленскаму праваслаўнаму Святадухаўскаму брацтву: "...вы, калі што-небудзь чыніце або пішаце, то робіце гэта ад імя ўсяго Народу Рускага, таксама ж калі хтосьці супраць вас што-небудзь чыніць або піша, прадстаўляеце і публікуеце, нібыта гэта супраць усяго Народу Рускага чыніцца. І ў той час, як існасць вашу выдаюць фальшы і блюзнерствы вашыя; у той час, як свавольствы вашы сведчаць пра адступніцтва ваша або брацці і вашай цэхавай; у той час, як папрокі, што адрасуюцца вам або брацці вашай, датычацца вас саміх або вашай цэхавай брацці, — вы ўсё гэта на ўвесь Народ Рускі валіце і ўсцягваеце, сцвярджаючы, што гэта датычыцца ўсяго Народа Рускага, што так трэба думаць пра ўвесь Народ, што гэта ўвесь Народ Рускі церпіць і за гэта падвяргаецца праследваням". Такім чынам, маючы на мэце прыніжэнне і выкрыццё праваслаўных братчыкаў, Мікуліч адначасова ўпершыню глабальна асэнсаваў значэнне віленскага праваслаўнага брацтва пры Святадухаўскім манастыры ў духоўным жыцці сваіх сучаснікаў.

...Перагорнута яшчэ адна старонка айчыннай гісторыі. Яшчэ адзін лёс, адно ўваскрэсенне, адна загадка. Імя ёй — Пісьменнік.

**Уладзімір КАРОТКІ**

АДГАЛОСКІ

# Свая думка адносна творчасці іншых

## ДА ДЗЁННІКАВЫХ ЗАПІСАЎ П.ПРЫХОДЗЬКІ "У РОЗДУМЕ ПЕРАД САМІМ САБОЙ"

***Хто ён, мой лаяльнік нязменны?***
***Хто ён, прадажнік мой патрэбны?***
***Зайздроснік неадступны мой?***
***Не варта думаць: — Родны, свой!***
***Часцей, чым друг, нам вораг важны, —***
***Спрадвеку свет так паўстае;***
***О, як ён, вораг, нам прыязны,***
***Той, што прырода нам дае!***

Гэтыя радкі з цыкла эпіграм вядомага рускага паэта XIX стагоддзя Яўгенія Баратынскага. Дарэчы, яны надрукаваны ў перакладзе Юрася Свіркі ў тым жа нумары "ЛіМа" (15.06.2001 г.), у якім выступіў з дзённікавымі запісамі "У роздуме перад самім сабой" паэт-франтавік Пятро Прыходзька.

Ніколі не думаў, дажыўшы да "ўзросту Караткевіча" і распачаўшы "ўзрост Мележа", што ў мяне могуць быць апантаныя нядобразычліўцы. Колькі помню сябе, працуючы ў літаратурных рэдакцыях Беларускага радыё і тэлебачання, а пасля — у выдавецтве "Юнацтва", я імкнуўся рабіць выключна дабро. Ды і ў сваёй творчасці заўсёды толькі яго меў на мэце.

Хоць нядобразычліўцы заўсёды, ва ўсе часы былі ў пісьменнікаў розных народаў. Не варта тут іх прыгадваць. Іх ведаюць тыя, хто прафесійна займаецца літаратурай.

Я доўга маўчаў пасля таго, як у часопісе "Крыніца" ў сваім адказе на анкету, перадз'ездаўскую, зрабіў "выпад" супраць мяне празаік Юры Станкевіч. Ну што ж, падумаў, — элітарны, з абмежаваным колам чытачоў часопіс, дзе працуе сам аўтар, магчыма, там яму ўсё дазволена... Дый мянялася якраз у той час кіраўніцтва штомесячніка.

Але, калі за мяне заступіўся ў вышэйназванай публікацыі паважаны мной і многімі Пятро Фёдаравіч Прыходзька, я не ўстрымаўся. Ды і ў падтэксце радкоў аўтара ў абарону мяне гучала асуджэнне рэха-водгукаў крытыканаў 30-х гадоў. Парасткі "аглабельнай" крытыкі, аказваецца, прарастаюць і сёння...

У маладыя гады я часта пісаў рэцэнзіі і крытычныя артыкулы і друкаваў іх у газетах і часопісах. Колькі я, помніцца, выношваў, вывяраў кожную сваю думку пра творчасць іншага... Гэта была неймаверная адказнасць: сумленна ацаніць новую кнігу паэта ці празаіка.

А зараз пра нашы стасункі з Юрыем Станкевічам. Гады чатыры назад Юры Станкевіч прынёс у выдавецтва "Юнацтва", дзе я працую, свой, як ён заявіў, першы ў беларускай літаратуры трылер. Але які быў сюжэт таго трылера? Я вельмі ўважліва прачытаў твор. Яго асноўныя калізіі тычыліся чарнобыльскага гора нашых людзей. Там былі "разня", забойствы ў выселенай палескай вёсцы, накшталт тых амерыканскіх фільмаў-баевікоў, якія сёння запаланілі тэлеэкраны. Ну гэта недзе далёка ў Амерыцы... А ў нас "выдумляць" чарнобыльскі трылер, я палічыў, амаральна. Гэта пацвердзіў і адзін пісьменнік, вёска якога пацярпела ад наступстваў Чарнобыля: такога там і ў паміне не магло быць. Дый як усе гэтыя трылер-скачарнобыльскія жахі прапанаваць (хіба мала было гора з высяленнем?) дзецям, юнаму чытачу? І я параіў аўтару забраць рукапіс і аддаць у іншае, больш "дарослае" выдавецтва. Не ведаю, ці звяртаўся ён у тую ж "Мастацкую літаратуру", але нідзе я гэты трылер не бачыў надрукаваным.

Гэта, паважаны Пятро Фёдаравіч (я звяртаюся да паэта Пятра Прыходзькі), лічыце маім тлумачэннем да Вашага "непаразумення", калі Вы прачыталі адказ на анкету Ю.Станкевіча ў часопісе "Крыніца". Злапамятнасць, ведайце, жыве ў некаторых гадамі... І яны не прапускаюць моманту, каб не адпомсціць.

А цяпер, што тычыцца маёй аповесці "Прынцэса з тусоўкі", якая выйшла летась у серыі "Школьная бібліятэка" ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" і з якой пачаў свой адказ на анкету Ю.Станкевіч. Аўтар адказу на анкету "Крыніцы", відавочна, не чытаў самога твора (аповесць не была ў продажы, увесь тыраж пайшоў па бібліятэках школ рэспублікі), бо нават назву яе не запомніў, напісаўшы: "Пра наступствы наркаманіі сярод падросткаў", — напэўна, хацеў сказаць "падлеткаў". Нібыта не мастацкі твор гэта, а нейкія рэкамендацыі наркалагічнага цэнтра. А гэтая аповесць стваралася і выходзіла на працягу 10 гадоў.

Першая яе частка "Пацукі, або Таямнічы дзённік" выйшла яшчэ ў 1991 годзе — у часопісе "Маладосць" і асобнай кнігай. Ды як? Калі б не смелае ўступнае слова лаўрэата Дзяржаўнай прэміі і Літаратурнай прэміі імя І.Мележа празаіка Генрыха Далідовіча (карысна было б Ю.Станкевічу яго пачытаць) нават у той "развальны" для Савецкага Саюза год яна па ідэалагічных меркаваннях не пабачыла б свет. Бо тэма школьнай наркаманіі ў мастацкі твор трапіла ўпершыню. За час перабудовы выявіліся ўсе жахі таксікаманіі і наркаманіі сярод падлеткаў, але, як кажуць, не прынята было яшчэ аб гэтым пісаць.

Другая і трэцяя часткі аповесці ствараліся на працягу 5-6 гадоў па просьбе настаўнікаў і вучняў. Пасля выхаду "Пацукоў..." я пабываў не менш, як у 50 школах рэспублікі. І ўсе прасілі працягваць пісаць кнігу, закончыць твор. Калі Ю.Станкевіч не верыць гэтаму, я магу паказаць яму ўсе лісты са школ, што тады ішлі да мяне, і газетныя выразкі з водгукамі аб сустрэчах, дыспутах па кнізе. Аповесць стваралася, вядома ж, не для чытача ўзросту і густу Ю.Станкевіча, а для школьнікаў, для якіх узнятая праблема была балючай. Адпаведна гэтаму быў і рэзананс. Яны ж, настаўнікі і вучні, праз Міністэрства адукацыі па сутнасці ўключылі "Прынцэсу з тусоўкі" ў вядомую серыю "ШБ". Па ёй я ўжо год выступаю ў школах. І да сёння адтуль ідуць бясконцыя запрашэнні... Так што, Ю.Станкевічу трэба часцей бываць у школах. Пэўна, там яму падказалі б, якая на самай справе гэтая аповесць... А калі ўжо ён не давярае школам, то хоць бы прачытаў рэцэнзіі на твор. А таму адсылаю да газет — "ЛіМ", у якім пісаў Алесь Марціновіч (за 2000 г.), "Мінская праўда", "Чырвоная змена", "Настаўніцкая газета", "Раніца" (за 2001 г.).

А што да тыражу — 11 тысяч, пасля якіх Ю.Станкевіч паставіў пытальнік, дык гэта для "ШБ" зусім малы тыраж, чаму ў школах і не хапае кнігі. Мае калегі павыдавалі ў гэтай серыі творы ў два разы большым тыражом.

І крыху пра сваю паэзію — няхай даруюць чытачы "ЛіМа", што даводзіцца займацца самарэкламай, бо Ю.Станкевіч, пэўна, не ведае наступнага. У 1998 годзе мая апошняя з пяці паэтычных зборнікаў кніга "Прыстань віцінаў" секцяй паэзіі СП (можа Ю.Станкевіч падняць дакументы) была вылучана на атрыманне Літаратурнай прэміі імя А.Куляшова. І вельмі блізка быў я да яе. Але на радзе перамог Мікола Купрэеў. Паэт тады па пэўных прычынах не атрымаў Дзяржаўнай прэміі. І яму была прысуджана "куляшоўская" прэмія. Да слова, на з'ездзе СП Мікола Купрэеў, якога я, як і многія, вельмі цаню, сказаў мне: "Твая адраджэнская (а так гаварылі на секцыі паэзіі некаторыя паэты) кніга "Прыстань віцінаў" заслугоўвала таксама прэміі". Гэта мяне павесяліла. А што тычыцца прэмій, дык не ў іх шчасце і слава. Я ніколі да іх не імкнуўся. Самая вялікая радасць, калі цябе ацэніць чытач, пры тым не такі прадузяты і галаслоўны, як Ю.Станкевіч, а шчыры і доказны, як, напрыклад, Пятро Прыходзька. Ён не паленаваўся ў яго ўзросце знайсці ў сваёй бібліятэцы маю кнігу і працытаваць хоць некалькі паэтычных радкоў, за што я яму ўдзячны.

Гэтак жа я ўдзячны і сваім землякам, якія жывуць у Стаўбцоўскім раёне, дзе ад іх я чую заўжды добрае і акрыляючае слова і дзе я часты госць на розных святах, прысвечаных народнаму песняру Беларусі Якубу Коласу. Не ведаю, ці гэтак жа любяць Ю.Станкевіча яго барысаўчане... Як кажуць, дай Божа!

І, нарэшце, калі на тое пайшло ўжо і так хочацца Ю.Станкевічу, я гатовы ахвяраваць усёй уласнай творчасцю дзеля адной — але якой! — кнігі **"Бацька наш Нёман"**, якая выйшла сёлета з друку. Я два гады патраціў на яе укладанне і нікольki не шкадую.

Кніга ўмясціла 155 аўтараў многіх нацыянальнасцей, якія расказваюць у самых розных жанрах пра Нёман, яго берагі і знакамітых людзей, што жылі на іх, ад вытоку славутай ракі — Узды да Гродна. Да таго ж, кніга выдатна аформлена каляровымі здымкамі-слайдамі. Хай гэты фаліянт, як напісаў Юрка Голуб у газеце "Гродзенская праўда", за лепшае стане помнікам самому ўкладальніку. Бо ўсе мы, людзі, смяротныя, а рэкі не павінны паміраць... Дарэчы, гэта кніга ў маі сапраўды магла б стаць помнікам усім тым, хто разам са мною ехаў у адным мікрааўтобусе з вытоку Нёмана (а перад гэтым у Уздзенскім краязнаўчым музеі адбылася прэзентацыя зборніка). Мы трапілі ў страшную аўтааварыю непадалёк ад Магільна. І хоць тут ракавое супадзенне, але, верыцца, што Бог і Нёман нас уратавалі, бо ехалі мы сюды з добрай місіяй і чыстым сэрцам.

Вяртаючыся да публікацыі Пятра Прыходзькі "У роздуме перад самім сабой", я хачу на заканчэнне працытаваць адтуль радкі: "У кожнага ёсць і павінна быць свая думка адносна творчасці іншых. Але кожны твор, напісаны кім то ні было б, павінен атрымліваць аб'ектыўную, доказную ацэнку". Правільна, думай, як хочаш, пра другога, але не выносъ жа на ўсю чытацкую аўдыторыю, як пробашч на плябанію, сваю ментарска-суб'ектыўную думку без усякага доказу як апошнюю інстанцыю, канчатковы прысуд пісьменніку, такому ж смяротнаму, як і ты сам. (Ці Ю.Станкевіч лічыць сябе ўжо, як Бог, несмяротным?) Бо што тады? Хаос? Анархія? Што хачу, тое пішу. Не падабаецца мне чымсьці гэты чалавек як пісьменнік — на табе ў друку пракурорскі ордэр на яго літаратурны арышт. Так не аднаго можна знішчыць і зняславіць... Недзе мы ўжо гэта праходзілі, хоць бы ў тых жа 30-х гадах мінулага стагоддзя.

Самы лепшы крытык — гэта Час. Даўно доказана. Ён расставіць усё па сваіх месцах. І невядома яшчэ, дзе будзе з яго сённяшнім салідным узростам і не вельмі адпаведным яму літаратурным набыткам наш апанент Юры Станкевіч і ці хто ўспомніць добрым словам яго?

А ў Бібліі сказана: "Не судзіце, да не судзімы будзеце..."

**Яўген ХВАЛЕЙ**

— Здаецца, стаіць нейкая машына.

Гэта сапраўды была сіняя "Мазда". З кабіны выйшаў чалавек, адчыніў багажнік. Узяў з рук вадзіцеля чамадан. Віка паставіла сумку. Ляпнулі дзверцы кабіны. Машына кранулася з месца. Ні абдымкаў, ні пацалункаў. Мабыць, доўга чакаў. Ноч без сну. Ды і ўвогуле стаміўся чакаць. Але ж сустрэў. Дачакаўся...

Я трымаў у далоні халодны гладкі кавалачак тоўстай паперы — візітоўку, якую сунула Віка на развітанне.

Дні праз тры патэлефанаваў на фірму, дзе яна працавала. Нічога не паспеў сказаць, а ў трубцы ўжо чуўся дзявочы галасок:

— Добры дзень! Слухаем вас.

На маё запытанне быў кароткі адказ:

— Пакуль што няма. У адпачынку.

Патэлефанаваў праз месяц: "Яшчэ не вярнулася з адпачынку".

Тыдні праз два пазваніў зноў.

— Ганчарук у нас больш не працуе. Звольнілася.

Значыць, Віка цвёрда вырашыла будаваць сям'ю, свой утульны, цёплы дом. Хай пашчасціць ёй у гэтым!

# Дзякуй, што падтрымалі

На былое месца працы, у "ЛіМ", прыйшоў ліст на маё імя ад Зарэцкай Лідзіі Радзівонаўны з вёскі Навасёлкі Пастаўскага раёна. Не адразу яна рашылася напісаць у рэдакцыю (ох ужо гэтая беларуская сціпласць!), а штуршком для ліста паслужыла кніга Сяргея Рублеўскага "Апостраф". Чытачка вельмі высока ацэньвае яе і нават называе падручнікам жыцця. "Па ёй можна вучыцца жыць — і жыць, як нас вучыць Бог — любіць сваіх блізкіх і родных, сяброў, даражыць дружбай, бачыць у жанчыне (гэта асабліва важна) усё тое добрае, чым узнагародзіла яе прырода, быць чулым да чужога гора". У гэтай кнізе "столькі мудрых разважанняў, столькі карысных парад"... Не дзіўна, што яна для жанчыны стала настольнай.

Калі вы падумалі, што піша настаўніца, то памыляецеся. Лідзія Радзівонаўна, як яна прадставілася, "простая даярка", маці пецярых дзяцей і васьмі ўнукаў. Унукам, вядома, пашанцавала на бабулю, якая ў вёсцы, у 5 раніцы ідучы на працу, знаходзіць час на мастацкую літаратуру.

На жаль, чытачка не паведаміла ні жанру, ні выходных дадзеных "Апострафа", ні звестак пра аўтара. Мне дапамаглі грамадскі рэдактар выдання пісьменнік Барыс Пятровіч і беларускі аддзел Нацыянальнай бібліятэкі. Я даведалася, што Сяргей Рублеўскі з пакалення Сокалава-Воюша і ў каралішчавіцкім семінары ўдзельнічаў як паэт. Ён з'яўляецца галоўным рэдактарам віцебскай абласной газеты "Народнае слова", друкаваўся ў "Крыніцы" і іншых выданнях. Згаданая кніга выйшла ў мінулым годзе невялікім накладам у выдавецкай фірме "Асобны дах", яе жанр вызначаны аўтарам як "тэксты аб праявах быцця". У анатацыі гаворыцца, што з гэтай кнігі паўстае вобраз Беларусі канца 20-га стагоддзя.

Нашы айчынныя лірыкі і рамантыкі шмат узнёслага напісалі пра Беларусь мінулага. Беларусь сённяшняя відавочна прайграе на гэтым фоне, а ейны вобраз падпсаваны агульнай абыякавасцю да ўласнай долі і маўклівым згодніцтвам.

Дарагая Лідзія Радзівонаўна! Сваім прачулым лістом вы падтрымалі не толькі Сяргея Рублеўскага, гэтай вясной прынятага ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, але і ўсіх нас, паэтаў, хто згаладаўся па "зваротнай сувязі", па жывым натуральным слове, хто адчувае сябе "нацменшасцю" на роднай зямлі. Як дрэвы сцінаюцца ў халады, як расліны нікнуць у задуху, так і мы зараз церпім і трываем у атмасферы татальнага, узаконенага бескультур'я, якое спрабуюць прыўкрасіць рыторыкай пра вечнае сяброўства і славянскую еднасць.

Упэўнена, што і вам нясоладка. У краме, як і паўсюль на вёсцы, адна гарэлка. Бульбу і пасеяць, і выбраць праблема. Закінутымі і няшчаснымі дажываюць свой век адзінокія бабулі. А жыць жа трэба, і верыць трэба ў перамогу "добрага пачатку", пакуль існуюць гэтая зямля і гэтае неба, пакуль падрастаюць унукі.

Хай не баляць вашы рукі спрацаваныя, хай шукае сэрца спатолю ў шматлікіх праявах Духа. І адна з іх — вы ведаеце — добрая літаратура.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

